
www.svaboda.com
# свабода
№47 (274) 24 траўня 2002 пятніца кошт свабодны падпісны індэкс 63478

# Расчараванне ў Беларусі

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

**Учора скончыўся візіт у Мінск дэлегацыі спецыяльнай рабочай групы Парламенцкай асамблеі АБСЕ. Асноўнай задачай групы было высветліць, ці адбыўся нейкі прагрэс у працэсе дэмакратызацыі нашай краіны. На выніковай прэс-канферэнцыі кіраўніца групы Ута Цапф з жалем адзначыла, што ніякімі асаблівымі поспехамі тут Беларусь пахваліцца не можа. Наадварот: ёсць сведчанні, што сітуацыя з правамі чалавека толькі пагаршаецца.**

Дэлегацыя ПА АБСЕ правяла ў нашай краіне чатыры дні – з 20 па 23 траўня. За гэты час ёй удалося выканаць вялікую праграму: сустрэцца з кіраўнікамі абедзвюх палатаў Нацыянальнага сходу і іншымі дэпутатамі, правесці перамовы з міністрам замежных справаў Міхаілам Хвастовым і міністрам інфармацыі Міхаілам Падгайным, наведаць Кансультацыйную раду апазіцыйных палітычных партыяў, абмяняцца думкамі з прадстаўнікамі недзяржаўных арганізацый, навукова-даследчых інстытутаў, журналістамі і прафсаюзнымі дзеячамі. Ута Цапф таксам назвала «вельмі важнай» сустрэчу з жонкамі і сваякамі вядомых грамадскіх дзеячаў, якія зніклі і чые зьнікненні лічацца палітычна матываванымі.


Фота IREX/ProMedia

Ута Цапф думае пра Беларусь

Прадстаўнікі рабочай групы выказалі вялікую заклапочанасць з нагоды таго, што афіцыйны Мінск не толькі не хоча працаваць з Кансультацыйна-назіральнай групай АБСЕ ў Мінску, але і чыніць ёй усялякія перашкоды, асабліва візавыя. Па словах кіраўніцы групы, цяпер у місіі засталіся працаваць толькі два чалавекі. Але яна вельмі спадзяецца, што беларускія ўлады зменяць сваё стаўленне да КНГ АБСЕ і дазволяць новаму кіраўніку місіі, амбасадару Эбергарду Хайкену прыступіць да працы.

Заканчэнне на стар. 3

# Аб'яднаўчая ліхаманка

Уладзімір ВАЛАНІН

*22 траўня ў Крамлі расійскі прэзідэнт Пуцін і спікер Дзяржаўнай думы, старшыня Парламенцкага сходу Беларусі і Расіі Селязнёў чарговым разам спрабавалі абмяркоўваць перспектывы пабудовы Саюзнай дзяржавы.*

Хутчэй за ўсё, абмеркаванне прайшло з ініцыятывы думскага спікера, вядомага прыхільніка канцэпцыі «Расія і Беларусь – адзіная дзяржава». Больш за тое, можна смела меркаваць, што тэмамі найяснейшага абмеркавання каторы ўжо раз сталі фармат аб'яднання і структуры кіравання ў новым міждзяржаўным утварэнні.

І ў Беларусі, і ў Расіі перыядычна ўспыхваюць гаворкі пра пажаданасць паскорыць аб'яднаўчыя працэсы. Маўляў, гэта лепш і для эканомік дзвюх краін, і для простых грамадзян. Нарэшце, толькі саюзная дзяржава нібыта зможа заняць прыстойнае месца на знешнепалітычных рынках.

Наконт эканомік зацікаўленыя ў аб'яднанні беларускія чыноўнікі разважаюць абсалютна слушна. Беларусь, якая не мае цяпер доступу да сур'ёзных інвестыцыйных рэсурсаў і паступова выпадае з ліку краін з высокім індустрыйным патэнцыялам, старанна спрабуе ўтрымацца на ёмістым расійскім рынку. Такое прыкрае становішча рэспублікі, якая некалі дынамічна развівалася – вынік неадэкватных паводзін цяперашняй кіраўнічай эліты. І тым не менш, калі Беларусь не зачэпіцца за расійская збытавыя, сыравінныя і фінансавыя рынкі праз адміністрацыйныя механізмы (а інтэграцыя – прыклад якраз палітычнага вырашэння канстытуцыйных і эканамічных недарэчнасцяў) – яна вымушана будзе канкураваць з прагрэсуючымі расійскімі і іншаземнымі вытворцамі на роўных умовах.

Заканчэнне на стар. 4

**АСВЕТА**

# Мінадукацыі закрывае 100 школаў

Цяперашнім часам важны кірунак у працы Міністэрства адукацыі Беларусі – рацыяналізацыя сеткі агульнаадукацыйных навучальных установаў. Пра гэта 22 траўня на паседжанні калегіі міністэрства паведаміў начальнік галоўнага ўпраўлення агульнай сярэдняй адукацыі Мікалай Фяськоў. Ён паведаміў, што ў працэсе рэарганізацыі будуць ліквідаваныя пераважна пачатковыя школы, якія сёння месцяцца ў маленькіх вёсках у непрыстасаваных памяшканнях. Так, да канца 2002 году ў Беларусі будуць закрыты 57 пачатковых школ, 42 базавыя і адна сярэдняя, а пераўтвораны 29 сярэдніх школ, 19 базавых і 4 пачатковыя. Для дзяцей з такіх вёсак будзе арганізаваны падвоз да буйных школ. Сёлета плануецца набыць для гэтых мэтаў 126 аўтобусаў.

М. Фяськоў падкрэсліў, што кожны год колькасць вучняў у беларускіх школах змяншаецца прыкладна на 50 тысяч чалавек. Па яго словах, у 2002–2003 навучальным годзе агульнаадукацыйныя школы Беларусі пяройдуць на пяцідзённы навучальны тыдзень. Цяпер міністэрства сумесна з зацікаўленымі ведамствамі займаецца карэкцыяй навучальных планаў і праграм.

**Вольга АСІПЕНКА**

**ВІЗІТЫ**

# Лужкоў прыехаў памаліцца



**Сёння ў беларускую сталіцу які ўжо раз прыехаў маскоўскі мэр Юрый Лужкоў.**

Адразу па прыбыцці ў Нацыянальны аэрапорт «Мінск» ён мусіць сустрэцца з беларускім прэм'ерам Генадзем Навіцкім, потым ускласці кветкі да манументу Перамогі на аднайменнай плошчы, а трэцяй справай накіруецца ў нядаўна адкрыты Алексіем II Дом міласэрнасці, што на Старабарысаўскім тракце, 6. Пасля гэтага Юрый Лужкоў, як паведамляе беларускі МЗС, возьме ўдзел у набажэнстве, якое будзе весці мітрапаліт Філарэт.

**КРЫМІНАЛ**

# Гандляр уранам

Днямі на вуліцы Прафсаюзнай г. Масквы быў затрыманы нехта Мікалай Шыцік, 1967 году нараджэння. Як удалося высветліць, пры вобыску ў яго было канфіскавана 500 грамаў збраевага ўрану. На ўмовах ананімнасці ва ўпраўленні ФСБ па Маскве і Маскоўскай вобласці паведамілі, што грамадзянін Шыцік з'яўляецца «ураджэнцам Беларусі» і што ў Маскву ён прыбыў, хутчэй за ўсё, з мэтай продажу ўрану, перадаюць расійскія СМІ. Але сцвярджаць, што гэта быў уран-238, прадстаўнікі УФСБ не сталі: «Канфіскаваныя пры арышце матэрыялы былі тут жа накіраваны на экспертызу ў НВА «Радон». Адказу ад іх мы пакуль не атрымалі».

**Алег САКАЛОЎ**

**ЗДАРЭННІ**

# Дзеці ў небяспецы

З дыягназам «атручэнне сярэдняй ступені цяжкасці» ў мінулую сераду ў Салігорску шпіталізаваныя 65 чалавек, у тым ліку 59 дзяцей. Тэрмінова спынена вытворчасць на малочным заводзе, які даследуецца на прадмет парушэння тэхналогіі і выпуску сапсаванай прадукцыі. Адначасова санітарна-эпідэміялагічная служба Мінскай вобласці на чале з яе начальнікам Валяр'янам Касінскім правярае сістэму водазабеспячэння, якая таксама магла стаць крыніцай бактэрыяльнага заражэння.

**Надзея СВЯТЛІЧНАЯ**

**КУРС НАЯЎНАГА ДАЛЯРА НА «ЧОРНЫМ РЫНКУ»**

**1790**

КУРАПАТЫ

## Зняты начны лагер у Курапатах



**Пра гэта заявілі актывісты ініцыятывы па абароне Курапатаў. З гэтага часу радыкальны фармат круглasутачнага дзяжурства будзе зменены на перыядычнае патруляванне ўрочышча.**

Сваімі асноўнымі здабыткамі сёння актывісты кампаніі называюць тое, што праз увагу да Курапацках крыжоў адбылася пэўная кансалідацыя грамадства, узнікла ўвага да праблемы палітычных рэпрэсій. Новы фармат вахты ў Курапатах – значна прасцейшы за папярэдні, таму актывісты спадзяюцца на пашырэнне кола ўдзельнікаў. Далучыцца да моладзі ўжо пастанавіла мінская гарадская рада БНФ «Адраджэнне».

3 чэрвеня, а 12.00 у Курапатах плануецца правесці мітынг, а таксама прыняць зварот да абласных уладаў з патрабаваннем «цывілізаванай мемарыялізацыі гэтага памятнага месца і забеспячэння яго належнай аховы».

**Ядвіга МАЦКЕВІЧ**

## Рызыкаваў і піў шампанскае

*Вінна-гарэлачную галіну пранізала карупцыя*

Услед за не спыненым пакуль скандалам на рэспубліканскім унітарным прадпрыемстве «Мінск-Крышталь», дзе магчымыя новыя непрыемнасці па крымінальнай справе былога загадчыка аддзелу збыту А.Казекі і ягонага бацькі – экс-прэзідэнта канцэрну «Белхарчпрам» В.Казекі, арышт адбыўся на іншым прадпрыемстве галіны.

Супрацоўнікі ўпраўлення па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю Міністэрства ўнутраных справаў здабылі кампраметуючыя звесткі пра дырэктара Мінскага завода ігрыстых він Міхаіла Гардзея. У прыватнасці, паводле папярэдняй інфармацыі, якая цяпер правяраецца, кіраўніку, узятаму пад варту, ставіцца ў віну, што са снежня 2000 году па ліпень 2001 году пры пасярэдніцтве непрацуючага мінчаніна ён атрымаў хабар у суме 81 тысяча даляраў ЗША. Паводле той жа крыніцы, чыноўніку гэтак аддзячылі адказныя асобы сумеснага прадпрыемства, зарэгістраванага ў Малдавіі.

**Мікола НЯЗЛОМНЫ**

СТРАЙК

## Фармацэўты выйшлі на вуліцу

У мінулую сераду працаўнікі ААТ «Белмедпрэпараты» выйшлі на вулічны страйк ля сценаў вытворчых карпусоў. Падставай для пратэсту стала нявыплата заробку за красавік. Міхаіл Гаўрылаў, прызначаны некалькі дзён таму генеральным дырэктарам ААТ «Белмедпрэпараты», паабяцаў сваім падначаленым пагасіць запазычанасць па зарплаце за кошт банкаўскага крэдыту. Фармацэўты пагадзіліся чакаць да 28 траўня.

**Галіна БАРАВАЯ**

КНІЖНАЯ СПРАВА

## Аб'яднанне вядучых выдавецтваў

*З сямі дзяржаўных выдавецтваў зробяць тры са скарочаным штатам*

Да 1 ліпеня ліквідуюцца тры беларускія выдавецтвы: «Полымя», «Ураджай» і «Беларусь», а на іх базе ствараецца адно – «Беларусь». Выдавецтва «Юнацтва» далучаецца да «Мастацкай літаратуры», а «Універсітэцкае» – да «Вышэйшай школы». Такім чынам, замест сямі існуючых выдавецтваў застануцца толькі тры. Рэарганізацыя праводзіцца па загадзе міністра інфармацыі і павінна завяршыцца да 1 ліпеня.

Дырэктар выдавецтва «Універсітэцкае» Аляксандр Нячай бачыць рацыю ў падобным зліцці двух выдавецтваў. «Спецыялізацыя нашага выдавецтва блізкая да спецыялізацыі «Вышэйшай школы». «Так што ў гэтым плане ў нас менш за ўсё праблемаў, – кажа А. Нячай. – Аб'ёмы выпуску прадукцыі застаюцца тыя ж, але страты, звязаныя з займанымі плошчамі, адміністраваннем, з абслугай, мусяць паменшыцца. Рабіліся прыблізныя падлікі: выдаткі паменшацца на 30–40%. Але ў астатнім гэта даволі складана падлічыць. Выдаткі знізяцца за кошт скарачэння персаналу, памяшканняў ды іншых расходаў».

Што да скарачэння штату, то ад зліцця двух выдавецтваў пацерпяць нямногія. «Пры ўсім пры тым зліццё пацягне за сабою і скарачэнне людзей. Цяпер ва «Універсітэцкім» працуюць 25 чалавек, а ў «Вышэйшай школе» – 49. У аб'яднаным выдавецтве агулам застануцца 49–50 чалавек», – сказаў Аляксандр Нячай.

**Рыгор БУЯН**

# «Трактар» усё больш заводзіцца

*Зноў страйк на адным з найбуйнейшых рэчавых рынкаў сталіцы*

**Хваляванні сярод прадпрымальнікаў на рэчавым рынку стадыёну «Трактар», пра якія НАША СВАБОДА паведамляла ў № 47(268) ад 16.04.2002 году, не спыняюцца. У мінулую сераду каля тысячы гандляроў адмовіліся працаваць, выказваючы тым самым пратэст супраць рашэння Мінгарвыканкаму закрыць рынак з 1 кастрычніка.**

Да арганізаванага 100-працэнтнага страйку прыватнікаў падштурхнуў пісьмовы адказ з гарадской «вертыкалі» на іхны папярэдні зварот. Усе тамтэйшыя крамнікі паставілі свае подпісы пад лістом з прапановамі адтэрмінаваць закрыццё рынку як мінімум на два гады. Патрэбен час, каб людзі не апынуліся без працы. За прылаўкамі з таварам стаяць збольшага нанятыя гаспадарамі гандляркі-жанчыны. Гэта для іх ці не адзіная магчымасць здабываць сродкі для існавання. Мітынгоўцы даводзілі, што жадаюць сумлення працаваць. Шматлікія наведнікі хоць і былі расчараваныя непрацоўным днём на «Трактары», але, разважаючы над сітуацыяй, выказвалі салідарнасць са слушнымі патрабаваннямі гандляроў. Жыхары суседніх кварталаў – супраць закрыцця зручнага для іх рынку. На ранейшых пікетах было сабрана больш за тысячу подпісаў, але і гэта ў Мінгарвыканкаме праігнаравалі. На мітынг ніхто з прадстаўнікоў улады не з'явіўся. А на тэлефанаванні загадчык аддзелу гандлю і бытавога абслугоўвання Аляксандр Лукашэвіч паранейшаму сцвярджае, што рынку на стадыёне не быць. Прадстаўнік улады спасылаецца на непрымальнасць для такога еўрапейскага гораду, як Мінск, нецывілізаванай формы гандлю на тэрыторыі спартыўнага збудавання.

Катэгарычная незгаворлівасць улады крыўдзіць людзей. Крамнікі ўзгадваюць, як з іх збіралі грошы на будаўніцтва Дома міласэрнасці, як яны спраўна плацяць немалыя падаткі і розныя зборы. Каб абараніць свае правы і годнасць, мітынгоўшчыкі прагаласавалі за спіс патрабаванняў. Галоўныя з іх – працяг дамовы арэнды гандлёвых месцаў да 2004 году і арганізацыя сустрэчы з прадстаўнікамі органаў улады для выпрацоўкі кампраміснага рашэння. Апрача таго, яны патрабуюць падоўжыць дамову на арэнду месцаў на рынку да 2004 году, змяніць уласніка рынку на дзяржаўнага (цяпер рынкам валодае ВКП «Болес»).

Калі гэтыя патрабаванні будуць выканаы, прадпрымальнікі прапаноўваюць у два разы павялічыць памер аплаты арандаваных месцаў з абавязковым кантролем за адлічэннем часткі сродкаў на развіццё дзіцячых дваровых і іншых спартыўных пляцовак у горадзе. Давесці гэтыя патрабаванні да кіраўніцтва Мінгарвыканкаму крамнікі даручылі свайму лідэру Анатолю Шумчанку.

**Вячаслаў КУЛІКОЎСКІ**



Рынак па продажы прамысловых тавараў быў арганізаваны на тэрыторыі сталічнага стадыёну «Трактар» у красавіку 1998 году, каб прыцягнуць дадатковыя сродкі для рэканструкцыі стадыёну. Пасля завяршэння першага цыклу рэканструкцыі адміністрацыя Заводскага раёну вынесла рашэнне аб паэтапнай ліквідацыі рынку і пачала яго ажыццяўляць. У траўні былі знішчаныя каля 90 бакалейных боксаў, што знаходзіцца на рынку.

РЭГІЁН

### Помнік Сімяону ў Полацку

Праз год у Полацку з'явіцца яшчэ адзін помнік славутаму земляку. Мясцовыя ўлады вырашылі ўшанаваць такім чынам памяць Сімяона Полацкага. Помнік будзе пастаўлены ля Багаяўленскага сабора.

### Тут быў Мюнхгаўзен

У горадзе Глыбокім Віцебскай вобласці мясцовыя краязнаўцы знайшлі магілу Мюнхгаўзена. Толькі пахаваны ён у канцы XIX стагоддзя. Ягонае імя напісанае на вялікім жалезным крыжы за адмысловым жалезным плотам на мясцовых могілках. Прататып кніжнага героя жыў у XVII стагоддзі і служыў у расейскім войску. Мяркуецца, што ў Глыбокім мог быць пахаваны ягоны сваяк альбо нашчадак.

### Нязвыклы святлафор

Першы ў Віцебску святлафор новай канструкцыі, у якім не перагараюць лямпачкі, з'явіўся на адным з вулічных скрыжаванняў гораду. Лямпачак у ім няма, бо ён зроблены з выкарыстаннем дыёдаў, якія выпраменьваюць святло. Устаноўка першага святлафора каштавала 22 млн. рублёў. Паводле папярэдніх звестак, ён эканоміць да 70% неабходных для эксплуатацыі аднаго святлафора сродкаў.

### Дзетак мала, школа зачыняецца

У Аршанскім раёне стане на шэсць школ меней. Мясцовы аддзел народнай адукацыі у рэчышчы абвешчанай ім «рэарганізацыі» збіраецца закрыць шэсць школ, а вучняў і настаўнікаў уладкаваць у суседнія школы. Ліквідацыя чакае і школу ў вёсцы Машкова, якая рыхталася адзначыць у наступным годзе 140-гадовы юбілей.

### Прыватызацыю могуць спыніць

Сенсацыйнае рашэнне – прасіць урад аб выдзяленні для калектыву 5% акцыяў бясплатна – прыняла канферэнцыя працоўнага калектыву вытворчага аб'яднання «Шкловалакно» ў Полацку. Рашэнне было прынятае па ініцыятыве філіі Свабоднага прафсаюзу і прымусіла пахвалявацца прысутных прадстаўнікоў канцэрну «Белнафтахім». Дырэктар прадпрыемства Браніслаў Сівы паабяцаў пры гэтым, што нават пры нязгодзе ўраду гэтыя акцыі будуць выкупленыя для калектыву за кошт прыбытку. Другой сенсацыяй стаў выступ старшыні камітэту па кіраванні дзяржаўнай маёмасцю і прыватызацыі Віцебскага аблвыканкаму Міхаіла Паўлючкова, які запэўніў прысутных, што прыватызацыя «Шкловалакна» можа быць спыненая ў любы момант па жаданні калектыву прадпрыемства альбо ўласніка ў асобе органаў улады. Таксама ён паведаміў, што прыватызацыя будзе суправаджацца шырокамаштабнай праверкай дзейнасці адміністрацыі прадпрыемства, як гэта было на «Нафтане».

# Расчараванне ў Беларусі

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

По выніках візіту парламентарыі ПА АБСЕ паведамілі, што тая частка беларускага заканадаўства, змянення якой патрабуе Эўропа ад афіцыйнага Менску, так і не палепшылася. Як вядома, АБСЕ чакае ад Беларусі паляпшэння палітычнага клімату, доступу апазіцыйных палітыкаў да дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі.

Парламентарый ПА АБСЕ ад Латвіі Хелена Дэмакава прысвяціла свой выступ разбіццю ілюзіяў беларускіх уладаў. Паводле яе словаў, першая ілюзія – гэта тое, што можна мець стасункі рознага ўзроўню з Арганізацыяй па бяспецы і супрацоўніцтве ў Эўропе, Эўрапейскім Саюзам, Саветам Эўропы і іншымі міжнароднымі арганізацыямі. Насамрэч, стаўленне Беларусі да адной з гэтых арганізацыяў аўтаматычна азначае такі ж падыход і да ўсіх астатніх. Нельга казаць пра паляпшэнне ўзаемаадносінаў з Эўрасаюзам і Саветам Эўропы і адначасова выціскаць місію АБСЕ і пагарджаць ёю.

Па-другое, заявіла Х. Дэмакава, калі Беларусь хоча будаваць Саюзную дзяржаву з Расіяй, то нельга мець з ёй розныя вектары знешнепалітычнага супрацоўніцтва. Як дадаў трэці прадстаўнік дэлегацыі швед Урбан Алін, Расія вельмі актыўна цяпер працуе на еўрапейскім накірунку. Яна імкнецца далучыцца да Еўрасаюзу і робіць усё неабходнае для гэтага. Беларусь проста не можа рухацца ў супрацьлеглым накірунку.

Але самай важнай ілюзіяй Х.Дэмакава назвала перакананне, што зло можа застацца непакараным: «Зніклі людзі, і гэта самае галоўнае. Пакуль іх не знойдуць, не будуць вырашаныя і ўсе астатнія праблемы». У якасці красамоўнай ілюстрацыі яна прывяла прыклад былога югаслаўскага прэзідэнта Мілошавіча, які таксама быў упэўнены, што яму ўсё дазволена.

Яшчэ адна ілюзія, на якой, дарэчы, вельмі настойвае кіраўніцтва Беларусі – гэта тое, што дэлегацыя ПА АБСЕ мусіць займацца выключна справай уваходжання Нацыянальнага сходу ў склад ПА АБСЕ. Насамрэч, па словах прадстаўніцы Латвіі, міжпарламенцкае супрацоўніцтва – толькі маленькая частка працы спецыяльнай рабочай групы па Беларусі. Па выніках гэтага візіту свае высновы аб стане дэмакратыі ў Беларусі будуць рабіць не толькі ў ПА АБСЕ, але і самой АБСЕ, і ва ўсіх іншых міжнародных арганізацыях, куды ўваходзіць або толькі хацела б увайсці Беларусь.

Падсумоўваючы вынікі гэтага візіту, ужо трэцяга пасля прэзідэнцкіх выбараў, можна толькі падзівіцца той упартасці і настойлівасці, з якой еўрапейскія парламентарыі імкнуцца прывесці нашу краіну да агульнаеўрапейскіх дэмакратычных стандартаў. Штораз яны натыкаюцца на механічны супраціў беларускай бюракратычнай машыны – але зноў і зноў прыязджаюць сюды і спрабуюць пераламіць сітуацыю да лепшага. На колькі яшчэ іх хопіць?

## Не самая прыемная сітуацыя

**Як раней паведамлялася, 13 траўня па ініцыятыве расійскага ўраду пазачарговы сход акцыянераў замяніў прэзідэнта кампаніі «Слаўнафта»: месца Міхаіла Гуцэрыева заняў Юрый Суханаў, які працаваў дагэтуль віцэ-прэзідэнтам «Слаўнафты» па камерцыйных пытаннях.**

Галоўнай прычынай кадравых змяненняў у кампаніі віцэ-прэзідэнт Андрэй Шторх лічыць эканамічную: «Бізнес і палітыка, як блізняты-браты. На самой справе, перш за ўсё размова ідзе аб эканоміцы. Восенню будзе выстаўляцца на продаж буйны пакет акцый «Слаўнафты», што знаходзіцца сёння ў дзяржавы, у прыватнасці, у Расійскага фонду федэральнай маёмасці. І ўжо гады два таму пачалася актыўная падрыхтоўка да прыватызацыі з боку жадаючых набыць гэты пакет. Нечакана сёлета сярод прэтэндэнтаў традыцыйных, г. зн. буйных нафтавых кампаній, з'явіліся і буйныя фінансавыя структуры, перш за ўсё Міжнародны прамысловы банк, які заняў дастаткова агрэсіўную, актыўную пазіцыю. Але правярнуць, скажам так, прыватызацыю метадамі традыцыйнымі не атрымалася».

Паводле слоў Шторха, называць «Слаўнафту» расійска-беларускай кампаніяй некарэктна: «На самой справе, гэта ў многім журналісцкі стэрэатып аб тым, што гэта кампанія сумесная расійска-беларуская. Беларускі ўрад у асобе Міністэрства эканомікі з'яўляецца нашым буйным акцыянерам, але ў мінарытарных акцыянераў кансалідаваны большы працэнт акцый, чым у Беларусі, таму не зусім карэктна гаварыць, што гэта расійска-беларуская кампанія. Гэта кампанія расійская, у якой ёсць беларускія акцыянеры. Гэта яе адрознівае ад іншых расійскіх буйных кампаній».

**Дзмітрый УЛАСАЎ**

ЮСТЫЦЫЯ

## Суд з дадатковымі крэсламі?

***Паступова набліжаецца дата наступнага судовага паседжання па справе М.Маркевіча і П.Мажэйкі. У сувязі з гэтым 22 траўня М.Маркевіч падаў хадайніцтва суддзі Т.Клімавай. Ён просіць забяспечыць магчымасць прысутнічаць на судзе 300 асобам.***

Гэта забяспечыла б публічнасць і адкрытасць суду, што замацавана ў артыкуле 23 Крымінальнага кодэксу. Сп. Маркевіч піша, што мінулым разам – 16 траўня ў судовую залу здолелі трапіць толькі працэнтаў 10 ад тых, хто жадаў прысутнічаць на працэсе. Па-першае, заля была замалая. А па-другое, міліцыянты папросту не пусцілі большасць людзей, у тым ліку журналістаў і дыпламатаў.

Найбольшая заля ў Ленінскім судзе Гродна змяшчае 70 чалавек. Аднак грамадская цікавасць да працэсу вельмі вялікая. Дык няўжо нельга тады арандаваць памяшканне ў іншым месцы – дзеля таго, каб маглі прысутнічаць усе ахвотныя? – кажа М.Маркевіч. Абсалютна відавочна імкненне ўладаў зацягнуць працэс, каб зменшыць грамадскую цікавасць да яго. Каб людзі стаміліся, заняліся іншымі клопатамі і перасталі прыходзіць у суд, прыязджаць з іншых гарадоў.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

# Закладнік мінулага

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

***Былы прэм'ер-міністр Беларусі Міхаіл Чыгір ніяк не можа пазбавіцца судовага інтарэсу да сваёй асобы. Вось ужо тры гады беларуская юрыспрудэнцыя марна спрабуе засадзіць яго за краты.***

21 траўня ў Фрунзенскім раённым судзе гораду Мінску адкрылася судовае паседжанне па абвінавачанні Міхаіла Чыгіра ў халатнасці і нясплаце падаткаў. Суд праходзіць пад кіраўніцтвам Наталлі Варэнік.

Паводле абвінавачання, у 1993–1994 гадах праз халатнасць М.Чыгіра «Белаграпрамбанк», якім ён кіраваў, панёс страты ў памеры 1 мільён 40 тысяч даляраў. Другое абвінавачанне: былы прэм'ер, калі працаваў у Маскве ў 1998–1999 гадах, не заплаціў падаткі ў беларускі бюджэт.

Абодва абвінавачанні не новыя. За гэтыя – і некаторыя іншыя – «грахі» Міхаіл Чыгір ужо бавіў час у следчым ізалятары, чакаючы суду. У красавіку 1999 году экс-прэм'ер пагадзіўся на ўдзел у альтэрнатыўных выбарах прэзідэнта Беларусі, наладжаных Вярхоўным Саветам 13-га склікання, прыехаў з Масквы ў Мінск, дзе і быў неўзабаве затрыманы. 8 месяцаў ішло следства. Пасля чаго суд вырашыў, што цяжкіх злачынстваў на Міхаілу Чыгіру не вісіць. Аднак пакінуў у сіле адзін злачынны эпізод – з пратэрмінаванай адтэрміноўкай па мытных плацяжах фірме «Піаск» – і прысудзіў палітыку тры гады пазбаўлення волі з адтэрміноўкай на два гады.

Тады М.Чыгір абскардзіў прысуд у Вярхоўным судзе Беларусі. Высокі суд адмяніў судовае рашэнне і накіраваў справу на дадследаванне. У выніку цяпер былому прэтэндэнту ў прэзідэнцкія кандыдаты зноў даводзіцца апраўдвацца перад судом.

Міхаіл Чыгір катэгарычна адмаўляе сваю вінаватасць. На яго думку, пракуратуры неабходна цяпер захаваць гонар мундзіру і даказаць, што не дарэмна чалавек адседзеў у ізалятары 8 месяцаў.



У першы дзень паседжання дзяржаўны абвінаваўца Анатоль Юркевіч тлумачыў суду, чаму экс-прэм'ер мусіць панесці пакаранне. Па яго словах, М.Чыгір асабіста вінаваты ў тым, што не пракантраляваў вяртання авансаў на будаўніцтва новага офісу банку.

У 1993 годзе адна чэшская кампанія падрукчылася пабудаваць гэты офіс на вул. Кальварыйскай у Мінску. Узяла задатак 140 тысяч даляраў – а потым адмовілася працаваць. «Белаграпрамбанк» разарваў дамову з ёй, але вярнуў толькі 100 тысячаў даляраў. 40 тысяч засталіся ў чэшскага боку. Паводле пракурора, вінаваты ў гэтым асабіста М. Чыгір. У другім выпадку будаўніцтвам таго ж новага корпусу збіралася займацца канадская фірма. Яна атрымала большы аванс – мільён даляраў. Але зноў-такі працы не выканала, а грошай не вярнула зусім.

Што да нясплачаных падаткаў, то, па сцвярджэнні А.Юркевіча, М.Чыгір, калі ачольваў прадстаўніцтва нямецкай кампаніі *Gea* у Маскве ў 1998–1999 гадах, то зарабіў не менш за 135 тысяч марак. А беларускі бюджэт не атрымаў з гэтых прыбыткаў нічога.

Прысутныя ў залі суду былі здзіўленыя тым, як нерваваўся падчас паседжання супрацоўнік пракуратуры. Эмоцыяў у яго яшчэ пабольела, калі прадстаўнік «Белаграпрамбанку» адмовіўся ад выступу, сказаўшы, што банк яшчэ не вызначыўся: будзе ён вінавацiць свайго былога кіраўніка ці не.

Абарона экс-прэм'ера ўзняла пытанне: чаму М.Чыгіру трэба было плаціць падаткі беларускаму бюджэту, калі ён жыў за мяжой краіны і акуратна плаціў падаткі па месцы пражывання? У адказ пракурор зачытаў экспертнае заключэнне беларускіх падатковікаў, паводле якога М.Чыгір мусіў таксама плаціць падаткі і Беларусі.

Наступнае паседжанне суду адбудзецца 27 траўня.

АДКРЫТАЕ ГРАМАДСТВА

## ПАСЕ зоймецца расследаваннем беларускіх гучных спраў

**У часе візіту на Беларусь 10–12 чэрвеня 17 дэпутатаў Парламенцкай асамблеі Савету Еўропы паставяць перад афіцыйным Мінскам пытанне аб правядзенні слуханняў пра знікненні апазіцыйных палітыкаў непасрэдна ў краіне.**

Візіт дэлегацыі ПА СЕ пройдзе перад чэрвеньскай сесіяй арганізацыі, на якой, сцвярджае старшыня АГП, «ёсць усе падставы для прыняцця рэкамендацыяў да беларускіх уладаў па стварэнні міжнароднай камісіі з удзелам незалежных экспертаў па расследаванні ўсіх гучных беларускіх спраў».

Гэта адзін з асноўных вынікаў парламенцкіх слуханняў па «беларускім пытанні», якія прайшлі 17 траўня ў Парыжы ў рамках Камітэту па юрыдычных пытаннях і правах чалавека ПАСЕ. На слуханнях, па словах А.Лябедзькі, «не было пазіцыі апазіцыі і пазіцыі беларускіх уладаў»: пра сітуацыю на Беларусі распавялі Зінаіда Ганчар, Ірына Красоўская, Таццяна Леановіч (Клімава) і Вольга Завадская – маці зніклага 7 ліпеня 2000 году тэлеаператара *ОРТ* Дзмітрыя Завадскага. На парламенцкіх слуханнях усе выступоўцы выказаліся за «стварэнне міжнароднай камісіі з удзелам незалежных экспертаў па расследаванні ўсіх гучных беларускіх спраў». Гаворка ішла не толькі пра імёны, якія не першы год на слыху: Юрыя Захаранку, Генадзя Карпенку, Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага, Дзмітрыя Завадскага, але і пра віцьбляніна Юрася Корбана, пра якога вось ужо чатыры месяцы ні чуткі ні прачуткі. Камітэт прыняў рашэнне звярнуцца да прэзідэнта ПАСЕ Петэра Шыдэра з прапановай «падтрымаць ініцыятыву стварэння камісіі». Больш за тое, па сцвярджэнні А.Лябедзькі, «з вуснаў асобных дэпутатаў гучала думка пра неабходнасць зрабіць факт стварэння камісіі адной з неабходных умоваў уступу Беларусі у Савет Еўропы».

**Рыгор БУЯН**

## Беларусь запрасіла «Дзяржінкар»

**Федэральнае дзяржаўнае унітарнае прадпрыемства «Дзяржаўная інвестыцыйная карпарацыя» («Дзяржінкар») з Расіі мае намер узяць удзел у рэалізацыі расійскіх і беларускіх інвестыцыйных праектаў.**

Делегацыя «Дзяржінкару» была ў Мінску з двухдзённым візітам па запрашэнні беларускага боку. Паводле словаў старшыні карпарацыі Уладзіміра Чарнова, расійскае прадпрыемства будзе ажыццяўляць у Беларусі функцыі кансультанта па пытаннях уласнасці і інвестыцый. Першымі крокамі павінны стаць супрацоўніцтва з беларускімі аўтамабільнымі заводамі, у тым ліку садзейнічанне пастаўкам аўтобусаў і вялікагрузных аўтамабіляў у Расію і на рынкі трэціх краін. Сярод іншых кірункаў супрацоўніцтва – даследаванне магчымасці расійскага рынку па прасоўванні прадукцыі МАЗ і МТЗ і некаторых іншых прадпрыемстваў.

**Ірына САЗАНОВІЧ**

# Новы помнік ахвярам Нямігі



**Ядвіга МАЦКЕВІЧ**

***30 траўня мінскія гарадскія ўлады плануюць устанавіць новы помнік ахвярам трагедыі на Нямізе. Сённяшні мемарыял, аўтарамі якога сталі галоўны архітэктар гораду Аляксандр Чадовіч і былы старшыня Саюзу мастакоў Генадзь Буралкін, мае цалкам свецкі характар і, на думку бацькоў, не адпавядае ідэі помніка. Па прапанове грамадскага аб'яднання «Няміга-99», куды ўваходзяць бацькі дзяцей, што загінулі ў цісканіне на Нямізе, Мінгарвыканкам 14 лютага 2002 г. прыняў распараджэнне «Аб устаноўцы знака на ўваходзе ў станцыю метро «Няміга» ў мэтах увекавечвання ахвяраў, якія загінулі 30 траўня 1999 г.». Яно і стала асновай для новага твору.***

У гэты момант праца па ўстаноўцы помніка ўжо ідзе. «Гарадское архітэктурнае бюро выпрацавала праектнае рашэнне. А мастацкае прадпрыемства «Скульптурны камбінат» распрацавала мастацкія элементы памятнага знаку, – кажа старшыня гарадскога архітэктурнага бюро Святлана Барысовіч. – Фінансавае ўпраўленне Мінгарвыканкаму забяспечыла фінансаванне гэтага праекту, а Камітэт архітэктуры скаардынаваў усю працу».

У мастацкім плане дадатак да мемарыялу выглядае гэтак: да тых прыступак, што існуюць сёння, дадаецца стэла – знак з чорнага граніту. У выніку атрымоўваецца своеасаблівы алтар. У ім будзе размешчаны аклад, які паўтарае аклад абраза Ефрасінні Полацкай у Полацкім манастыры, некалі зробленага скульптарам Генадзем Лаўрэцкім. Усярэдзіне аклада – імёны ахвяраў і цытата з Евангелля ад Іаана. На помніку будзе месца, каб пакласці кветкі альбо паставіць свечкі.

У помнік будзе ўведзеная некаторая рэлігійная сімволіка. «Нягледзячы на тое, што тут загінулі людзі розных канфесій, усе бацькі пагадзіліся з тым, каб быў праваслаўны крыж, таму што большасць праваслаўных; ёсць таксама і каталікі, але і яны не пярэчылі», – кажа спн. Барысовіч.

Міхаіл Іннькоў, архітэктар, дачка якога таксама загінула на Нямізе, каментуе новы варыянт помніку так: «Дошка ўжо існавала, яна была распрацавана для Полацкага манастыра. Але на месцы аблічча Ефрасінні Полацкай будуць 53 прозвішчы ахвяраў.

Мы з боку бацькоўскага камітэту кантралявалі кожны этап працэсу. Спадзяёмся, што мемарыялізацыя гэтага месца – гэта развіццё нейкай адной тэматыкі, аднаго вобразу. Дошку, якая зараз будзе ўстаноўлена, ні ў якім разе не дэмантуюць, але сам помнік у будучыні, я спадзяюся, будзе ўдасканальвацца».

Адкрыццё помніка плануецца на 30 траўня, прыкладна а 12 гадзіне. Было некалькі прапановаў узвесці тут капліцу, але гэта складанае пытанне. Старое замчышча, дзе павінна была б паўстаць капліца, – вельмі няпростае месца. Тут неабходна было б праводзіць гісторыка-археалагічныя даследаванні. Гэта настолькі моцны пучок праблем, што на сённяшні дзень іх вырашэнне здаецца немагчымым, таму зараз аптымальнае менавіта такое камернае рашэнне, хай сабе і часовае. «Калі будзе агульнае рашэнне ўсёй гэтай зоны, тады можа ўзнікнуць пытанне перапрацоўкі і гэтага помніка. Але гэта ўсё вельмі і вельмі няпроста», – кажуць у гарадскім архітэктурным бюро.

Акрамя таго, яшчэ ў 1999 годзе быў атрыманы ліст з прэзідыуму Мінгарсавету з заключэннем пра магчымасць будаўніцтва храма на месцы трагічных падзеяў, дзе, у прыватнасці, адзначаецца, што «з пункту гледжання захавання культурнай спадчыны будаўніцтва новага аб'екта ў дадзеным выпадку з'яўляецца недапушчальным».

# Аб'яднаўчая ліхаманка

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

Ці трэба казаць, хто ў гэтым выпадку атрымае перавагу? Толькі інтэграцыя – у любой форме – дазволіць беларускай адміністрацыі, з аднаго боку, атрымаць доступ да расійскіх тэхналогіяў, а з другога – забяспечыць укараненне гэтых тэхналогіяў расійскімі ж грашыма.

Інтэграцыйная тэма, несумненна, прыдатная толькі для прапагандысцкіх спекуляцыяў. Але толькі да тае пары, пакуль не ўстае пытанне пра юрыдычны механізм рэалізацыі той ці іншай інтэграцыйнай канцэпцыі. Пакуль найвышэйшыя службовыя асобы проста разважаюць пра тое, як добра будзе жыць у адзіным доме, гэта станоўча ўспрымаецца і выбарцамі, і элітамі. Усе выдатна разумеюць, што ад папулярных лозунгаў абы-чаго не адмаўляюцца. Прынамсі, не адмаўляюцца, пакуль яны забяспечваюць стабільны працэнт падтрымкі з боку патэнцыйных выбарцаў. Зрэшты, цяпер да інтэграцыйнай тэматыкі перыядычна вяртаюцца толькі беларускія дзяржменеджэры. У Расіі ж хапае і больш важкіх інфармацыйных нагодаў – такіх, напрыклад, як адміністрацыйная рэформа, перабудова заканадаўчай галіны ўлады, выцісненне левых у маргінальныя слаі, перадзел уплыву ў рэгіёнах – каб усур'ёз і надоўга вяртацца да тэмы расійска-беларускага аб'яднання.

Саноўным жа беларусам, якія пакуль што нядатныя выразна патлумачыць, чаму пры вадавочным узмацненні адміністрацыйнага (чытай: непасрэднага прэзідэнцкага) кіравання ўва ўсіх галінах узровень жыцця ў краіне імкліва падае, інтэграцыйныя абстракцыі патрэбныя як паветра.

Нагадаем, што яшчэ 14 лютага адбылося першае паседжанне сумеснай расійска-беларускай рабочай групы, якая і займаецца юрыдычнай прапрацоўкай варыянтаў Канстытуцыйнага акта Саюзнай дзяржавы. Ужо тады беларускі бок, на вялікае здзіўленне расійскіх экспертаў, спешна прапанаваў практычна завершаны варыянт Канстытуцыйнага акту. Расійскі ж бок пагадзіўся, што гэты варыянт цалкам можа быць узяты за аснову – каб на базе прапанаванага рабочая група змагла прыступіць да выпрацоўкі канчатковых прынцыпаў аб'яднання.

Зрэшты, аб'яднанне – калі яно ўвогуле будзе запушчана – працэс доўгі і шматэтапны. Найперш, ён доўгі паводле бюракратычных мерак. Зашмат патрабуецца ўзгадненняў і занадта часта пры гэтым будуць узнікаць міжэлітныя супярэчнасці. Наўрад ці дзве такія розныя (палітычна, эканамічна, нарэшце – ідэалагічна) дзяржавы здатныя аб'яднацца толькі на падставе прынятага ў вярхах рашэння. Расійскі бок, які расцэньвае любы інтэграцыйны праект выключна прагматычна, спачатку, напэўна, палічыць эканамічную мэтазгоднасць таго ці іншага аб'яднаўчага кроку. Перш чым зрабіць другі крок. Расіян, як вядома, найперш хвалюе «эканоміка» аб'яднання. Тым часам беларускаму боку – дакладней, асабіста прэзідэнту Лукашэнку – рупіць зусім іншае. А менавіта: які канчатковы выгляд прыме структура кіравання саюзнай дзяржаваю і якое месца ў гэтай структуры зможа заняць сам Аляксандр Рыгоравіч.




Якраз таму беларусы гэтулькі ўвагі аддаюць працэдуры падрыхтоўкі Канстытуцыйнага акту. Бо гэты дакумент павінен праясніць статус і паўнамоцтвы найвышэйшай службовай асобы ў саюзным міждзяржаўным утварэнні. Як вядома, цяпер саюзная дзяржава фармальна кіруецца Дзяржсаветам, кіраўніком якога на ратацыйнай аснове з'яўляецца ці расійскі, ці беларускі прэзідэнт.

Канстытуцыйны ж акт павінен або пацвердзіць падобную структуру кіравання (хоць эксперты лічаць яе відавочна неадпаведнай, калі справа ўсё ж дойдзе да «блізкароднаснага» яднання), або прапанаваць больш перспектыўны механізм кіравання Саюзам РБ і РФ.

У тым жа лютым 2002 году грамадскасць атрымала магчымасць параўнаць тры варыянты магчымай структуры кіравання саюзнай дзяржаваю.

Так, першы – выразна кансерватыўны – варыянт новага дзяржаўнага ладу прапануе бакам захаваць прынцып ратацыйнасці кіраўніка саюзнага ўтварэння. У гэтым выпадку абодва прэзідэнты будуць мяняцца на «адзінай пасадзе» кожныя два гады. Для часова «беспрацоўнага» прэзідэнта прадугледжваецца чыста дэкаратыўная пасада віцэ-прэзідэнта.

Другі – «нелукашэнкаўскі» – варыянт прадугледжвае, што прэзідэнтам саюзнай дзяржавы нявыбарным парадкам становіцца расійскі прэзідэнт. Уладзімір Пуцін займае галоўную пасаду на сталай аснове. Само сабой, у гэтым выпадку расійскі прэзідэнт аднаасобна кіруе дзвюма дзяржавамі. Беларускаму прэзідэнту прапануюць задаволіцца роляю ўсё таго ж дэкаратыўнага віцэ-прэзідэнта.

Ёсць яшчэ і трэці варыянт будучага ўпарадкавання кіраўнічай структуры саюзнай дзяржавы.

Гэты варыянт прадугледжвае так званае калегіяльнае кіраванне Саюзам. Паводле існуючага праекту, галоўным органам кіравання ў гэтым выпадку служыць вышэйшы дзяржсавет, куды «дэлегуюцца» прэзідэнты дзвюх краін, прэм'еры, кіраўнікі парламенцкіх палат. Варыянт, ясная рэч, занадта груваcткі. Кіраванне, як вядома, прадугледжвае асабістую адказнасць і ўменне аператыўна рэагаваць на выклікі. Калегіяльнае кіраванне відавочна не адпавядае сучасным патрабаванням, якія прад'яўляюцца да эфектыўных менеджэраў.

Беларускі бок, вядома, плануе, што ў «кіраванні Саюзам» Лукашэнка атрымае не меншыя правы, чым яго расійскі калега. Аднак расіяне цалкам слушна мяркуюць, што кіраваць адзінай структурай – паўторымся: калі такая ўвогуле некалі будзе створана – павінен прэзідэнт Расіі. Як мацнейшай – ува ўсіх сэнсах – дзяржавы. Мяркуючы па ўсім, на сустрэчы Пуціна і Селязнёва якраз і абмяркоўвалася пытанне, як менавіта павінна кіравацца саюзная дзяржава. А калі быць больш дакладным, напэўна, Пуцін праз пасярэдніка паспрабуе данесці да Лукашэнкі свой галоўны *message*: Аляксандру Рыгоравічу непажадана прэтэндаваць на колькі-небудзь сур'ёзную ролю ў рэальным кіраўніцтве Саюзам. Але ці пагодзіцца з гэтым сам Лукашэнка? Пытанне рытарычнае...

# У кожнага свая праўда



**Аксана ЯНОЎСКАЯ**

**Чалавек можа пражыць усё жыццё і не сутыкнуцца з супрацоўнікамі крымінальнага вышуку, але да паставога міліцыянта хоць раз у жыцці кожны з нас звяртаўся: ну хоць бы спытаць, дзе знаходзіцца патрэбны нам будынак. Каб паназіраць за службай патрульна-паставых міліцыянтаў, камандзір палка ППСМ Аляксандр Барсукоў прапанаваў карэспандэнтцы НАШАЙ СВАБОДЫ праверыць маршруты пешых патрулёў.**

## Не верце міфам

Падпалкоўнік узяў рацыю, папярэдзіў дзяжурнага, што паедзе паказваць журналістцы працу падначаленых. Сваю машыну ён прыпаркаваў каля гандлёвага цэнтру, і мы пайшлі шукаць патруль. Пакуль ішлі і размаўлялі выключна па-беларуску, я адчувала на сабе позіркі мінакоў: ад спачування да здзіўлення. А дзве кабеты і ўвогуле спыніліся і адна сказала: *«Галя, глянь, наверна, кино снимают. Мент па-беларуски гаварит»*.

Адсмяяўшыся, я пачала распытваць пра міфы вакол палка.

– Праўда, што пераважная большасць патрульных – вясковыя хлопцы?

– Гэтай легендзе ўжо сто гадоў. Прымаем на службу толькі мінчан, у крайнім выпадку жыхароў Мінскага раёну.

– А праўда, што ў ППСМ «косяць» ад службы ў войску, а пасля 27 год звальняюцца?

– Такая з'ява мела месца сярод выпускнікоў ВНУ з ваеннымі кафедрамі. Але я не прыму на службу ніводнага такога прэтэндэнта. Калі мужчына ўхіляецца ад службы ў войску – у нас яму не месца.

– А праўда, што сярод сяржантаў шмат хто мае вышэйшую адукацыю ці вучыцца?

– Прыкладна 30% ужо маюць вышэйшую адукацыю, і гэта – рэзерв іншых служб міліцыі: участковых, крымінальнага вышуку, АБЭЗ. Яшчэ адсоткаў 20 супрацоўнікаў вучыцца найчасцей у міліцэйскіх навучальных установах. Шмат хто мае сярэднюю спецыяльную адукацыю, і ўсё гэта дапамагае ім працаваць.

У двары шматпавярховых дамоў патрульныя размаўлялі з уладальнікамі сабак: высвятлялі, ці зарэгістраваны чатырохногія сябры. Адна жанчына вельмі агрэсіўна даказвала, што яна – малазабяспечаная і падатак на сабаку плаціць не павінна. Сяржант тлумачыў, што ад такога падатку вызвалены толькі пенсіянеры. Заўважыўшы камандзіра, старшы патруля памкнуўся з дакладам, але прагучала: «Працуйце». Калі дыскусія скончылася, Аляксандр Пятровіч патлумачыў маю прысутнасць.

– З якой газеты? – перапытаў старшына.

– З НАШАЙ СВАБОДЫ.

– О, нават, цяжка паверыць. А вы можаце напісаць праўду пра наш заробак?

– Магу, калі скажаце.

– Напішыце: 190–220 тысяч рублёў, у залежнасці ад выслугі, гэта з прэміяй, надбаўкамі за выходныя і святочныя дні.

*Заробак старшыні міліцыі складае 190–220 тысяч рублёў, у залежнасці ад выслугі, гэта з прэміяй, надбаўкамі за выходныя дні*

– А вы лічыце, што вам мала плацяць?

– Мы такія ж людзі, як і ўсе іншыя, і нам таксама хочацца болей, але дзе ўзяць? Незадаволенасць заробкам трэба разглядаць як стымул лепей працаваць, атрымліваць адукацыю, іншую пасаду. Дык напішаце? А то ў нас адзін хлопец збіраўся ўзяць шлюб, а будучая цешча як даведалася пра заробак, дык і забараніла дачцэ выходзіць за яго замуж. Казала: я чытала, што сяржант зарабляе 300 даляраў.

Мы развіталіся з патрульнымі, і я спытала ў падпалкоўніка:

– Вы не будзеце на іх сварыцца за раскрыццё «камерцыйнай тайны»?

– Ні ў якім разе. Я згодзен з імі. Нельга параўноўваць працу людзей розных прафесій. Вось у траўні было шмат святочных дзён – усе збіраліся сем'ямі, а мы неслі службу ва ўзмоцненым рэжыме. Думаю, што дзіцяці лепей больш пабыць з бацькам, чым з'есці прысмакаў, набытых за «святочныя» даплаты.

Цяпер паехалі ў цэнтр гораду і хутка напаткалі яшчэ адзін патруль.

– Скажыце, што самае цяжкае ў вашай службе?

– Рабіць заўвагі законапаслухмяным на першы погляд грамадзянам. Калі маеш справу з дробным хуліганам – усё зразумела.

Нечакана загаварыла рацыя, і падпалкоўнік вырашыў тэрмінова вярнуцца «на базу». Я спадзявалася, што на гэтым мае прыгоды і скончыліся, але Аляксандр Барсукоў запэўніў, што я яшчэ нічога не бачыла і не зразумела: зараз пройдземся па якім-небудзь маршруце. Я мусіла згадзіцца, але пры ўмове, што падпалкоўнік пераапранецца ў цывільнае.

– А хто не верыў, што супрацоўнікі вытрымліваюць вялікі псіхалагічны прэсінг? Вы толькі прайшлі побач з міліцыянтам і ўжо на вас «не так глядзяць».

## Вася, не лезь!

Мы прыехалі ў мікрараён на ўскраіне сталіцы. Машыну – на платную стаянку і пешшу… Па дарозе сустрэліся тры патрулі, якія не ведалі, як рэагаваць на свайго камандзіра ў цывільным ды яшчэ і нібыта на шпацыры. А кабеты ўжо разглядалі яго без усялякага спачування і здзіўлення. Мы падыходзілі да прыпынку грамадскага транспарту, і нават на пэўнай адлегласці было зразумела, што там нешта адбываецца. Падпалкоўнік паскорыў крок, а я папрасіла:

– Давайце паназіраем, чым усё скончыцца.

– Толькі дзеля вашага рэпартажу я вытрымаю ролю назіральніка. А нічога не будзе, пакуль патруль іх не забярэ. Ніхто нават заўвагі не зробіць.

Пасярод прыпынку, якраз каля лаўкі, стаяла група падлеткаў: тры хлопцы і дзве дзяўчыны. Змест іх размовы, якая складалася пераважна з нецэнзурных слоў, быў прыкладна такі: трэба знайсці яшчэ адну «герлу», узяць піва і гарэлкі і ехаць да Таляна, у яго пустая хата. Адразу ж даволі абразліва пачалі абмяркоўваць дзяўчаты, якія былі на прыпынку нават разам з бацькамі. Потым аднаго «героя» пачало ванітаваць і ўсе пачціва расступіліся. Абыякава назіралі за гэтым «айцы сямейства»: нічога, што абразілі дочак, якія побач з імі. Крышку пагардліва падціснулі вусны бабулькі, падобныя да настаўніц на пенсіі. Зацікаўлена і спачувальна пазіралі ў бок падлеткаў маладыя людзі ад 20 да 25. Хто быў не адзін, той дзяліўся ўспамінамі: а вось я на Новы год столькі выпіў…

Адышоўшы ад забруджанага месца, кампанія зноў пачала брыдкасловіць і «чапляць» людзей, пакуль толькі словамі. Нейкі мужчына выказаў намер «прыструніць» іх. Жонка з металам у голасе прыказала: «Вася, не лезь»! І Вася не палез. Адзін з хлопцаў ужо пачаў распускаць рукі – на прыпынку была дзяўчына гадоў 16. Падпалкоўнік больш не змог быць назіральнікам і накіраваўся да падлеткаў. Ён спытаўся, дзе яны жывуць.

– А табе якая справа? – быў лаканічны адказ.

– Ніякай. Я толькі патрабую, каб вы разышліся па сваіх дамах.

– Ён патрабуе! Ты, мусіць, мент?

Гэта былі апошнія словы, якія можна напісаць. Далей – толькі адборныя мацюганні з вуснаў падлеткаў і спакойны, нават ціхі голас міліцыянта. Падлеткі ўсё парываліся «зараз табе даць», нават «герлы» іх заахвочвалі, але чамусьці толькі махалі рукамі, дрыгалі нагамі, але наблізіцца не асмельваліся. Учапіўшыся ў руку падпалкоўніка, я ўспомніла, што некалі ў нейкім артыкуле выкарыстала журналісцкі штамп аб тым, што самае жахлівае – гэта зграя падлеткаў. А цяпер я гэта адчула. І чым часцей у іх вуснах гучала «мусіць, мент», тым станавілася страшней. Цяпер я ўспомніла выпадкі, калі міліцыянтаў ранілі і нават забівалі падлеткі, якім яны рабілі заўвагі. Хоць бы не «ажыла» рацыя і не выдала міліцыянта. Транспарту ўсё не было, і людзі з цікавасцю назіралі: што ж будзе? На другім баку шашы праехаў міліцэйскі «уазік». Я злавалася: чаму яны не спыніліся, няўжо не заўважылі?

*Самая вялікая небяспека на вуліцы – сустрэць зграю падпітых падлеткаў, якія сцвярджаюць сябе абразамі і нападамі на грамадзян*

Затое яго заўважылі падлеткі: ага, твае дружбаны праехалі міма! Ужо самы моцны з іх пачаў падскокваць, прымярацца, каб ударыць. І… як з-пад зямлі з'явіўся патруль. Дужыя хлопцы ўмомант «скруцілі» падлеткаў і загрузілі ў «варанок». У адказ на гэта – дваццаціпавярховы мат. Дзеўкі самі палезлі ўслед за сваімі «кавалерамі». Відовішча скончылася, і на прыпынак прыехалі аж тры аўтобусы адразу. Людзі пачалі іх штурмаваць.

Мы паціху пайшлі да машыны, абмяркоўваючы феномен васяў і іх жонак.

## Чорт ведае што

Мы толькі прыехалі на базу, як дзяжурны далажыў, што тэлефануе грамадзянка і кажа, што міліцыянты пабілі падлеткаў.

Падпалкоўнік схапіў трубку, уключыў гучную сувязь, назваў сябе.

– Прыкладна паўгадзіны таму на прыпынку міліцыянты пабілі дзяцей. Яны проста сталі на прыпынку, пад'ехаў «уаз», выскачылі міліцыянты, пабілі дубінкамі на вачах усіх людзей. Я запісала нумар.

– Які нумар машыны?

Жанчына назвала нумар. Гэта быў той самы «уазік».

– Як доўга вы былі на тым прыпынку?

– Хвілін дваццаць.

– Больш чым дастаткова. А можа, падлеткі брыдкасловілі, чапляліся да грамадзян? Можа, ім хто заўвагу зрабіў?

– Не, нічога такога не было.

– А я кажу, што падлеткі загадзілі ўвесь прыпынак, абражалі грамадзян, што былі там.

– Адкуль вы ведаеце?

– Таму што я там быў і зрабіў ім заўвагу.

– А чаму вы без формы?

– Бо мой працоўны дзень скончыўся.

– Дык чаго вы да дзяцей чапляліся? Я буду скардзіцца ў газету!

– Ваша права. Дарэчы, са мной была карэспандэнтка НАШАЙ СВАБОДЫ.

– Ну, гэта чорт ведае што. Карэспандэнтка апазіцыйнай газеты ходзіць па вуліцы разам з падпалкоўнікам міліцыі. Я буду скардзіцца!

У трубцы – кароткія гудкі. У дзяжурнай часці – цішыня.

## У чым праўда?

Падпалкоўнік некуды патэлефанаваў, і яму далажылі, што дзяўчатам – 13 і 15 гадоў. Хлопцам – па 17. Толькі за адной дзяўчынай едуць бацькі. Астатніх – каго дома няма, а каму нецікава, што з іх дзецьмі.

Стрэлкі гадзінніка паказвалі 23:15, калі нарэшце машына падпалкоўніка асвятліла фарамі двор, праз які я звычайна хаджу дамоў. Па праезнай частцы няспешна ішлі тры міліцыянты. Не азіраючыся, яны сышлі ўбок. Машына ехала на чарапашай хуткасці, праз адчыненае вакно было чуваць, як патрульныя абмяркоўвалі фільм «Вайна»:

– А Бадроў, якую б ролю ні граў, з вобраза Брата так і не выходзіць.

– Ды што казаць? У мяне вунь пяць аднакласніц пабралі шлюб з замежнікамі, і усё вярнуліся дадому – чужыя мы там і нікому не патрэбныя…

– Што ні кажы, а ў гастранамічным, так бы мовіць, сэнсе за мяжой лепей. Але ж трэба неяк і дома па-людску жыць…

ЭКАНАМІЧНЫЯ НАТАТКІ

### Беларускі цэнтр электронных подпісаў

У Беларусі хутка з'явіцца першы ў СНД цэнтр сертыфікацыі электронных подпісаў. Ліцэнзію Дзяржаўнага цэнтру бяспекі інфармацыі атрымала кампанія «БелХард Груп». Плануецца, што новая паслуга будзе аказвацца на базе Міждзяржаўнага цэнтру электроннага гандлю *www.etp2000.com*. Новы цэнтр, па словах дырэктара «БелХард Груп», пачне сваю працу ўвосень гэтага году. Беларусь яшчэ ў 1997 годзе прыняла закон аб «электронным дакуменце», аднак не мела спецыялізаваных цэнтраў.

### Рост камп'ютэраў і коштаў

Пасля трох гадоў зніжэння кошты на камп'ютэры пачынаюць расці. Гэта адлюстроўвае рост кошту вытворчасці і камплектуючых. Адзін з найбуйнейшых у Японіі вытворцаў камп'ютэрнай тэхнікі кампанія *NEC* прагназуе павышэнне коштаў на сваю прадукцыю, а шматлікія іншыя вытворцы, напрыклад, *Apple Computer, Fujitsu, IBM*, ужо зрабілі гэта. У сярэднім павелічэнне складае 10–20%.

### Нафта паступова сплывае ў нябыт

Шэраг дзяржаваў свету, у прыватнасці ЗША і Вялікабрытанія, заяўляюць пра намер максімальна зменшыць залежнасць сваіх эканомік ад нафты. На гэтай хвалі буйнейшыя аўтабудаўнічыя кампаніі – гэткія, як *General Motors* і *Ford Motor* – абвесцілі пра павелічэнне асігнаванняў на даследаванні ў галіне альтэрнатыўных паліваў. Першы прэтэндэнт на месца нафты – вадарод, які, па ацэнках вядучых тэхнолагаў свету, у хуткім часе пакладзе канец веку рухавікоў унутранага згарання. Гэткія прагнозы могуць пацвердзіць і некаторыя эканамічныя праграмы розных краін: напрыклад, амерыканскі праект «Апалон» прадугледжвае ўвод у эксплуатацыю да 2010 году каля 100 тыс. «вадародных» аўто, а японская *Toyota* анансавала продаж такіх машын ужо на студзень наступнага году.

**Андрэй КАРПОВІЧ**

# «Індэкс хабарнікаў-2002»

**На мінулым тыдні сусветная антыкарупцыйная арганізацыя *Transparency International* апублікавала «Індэкс хабарнікаў» 2002 году. Разлік Індэксу хабарнікаў-2002 грунтуецца на выніках апытанняў, праведзеных у 15 краінах, што развіваюцца.**

Вынікі даследавання адбіваюць пункт гледжання высокакваліфікаваных экспертаў у галіне эканомікі, чыё становішча дае ім магчымасць атрымліваць важныя ўнутраныя звесткі аб праблемах «вялікай» карупцыі» і подкупу ўрадавых чыноўнікаў, лічыць кіраўнік аддзелу навуковых даследаванняў *Transparency International* сп. Фрэдэрык Гальтунг.

Згодна з вынікамі даследавання, самы высокі ўзровень хабарніцтва ў краінах, што развіваюцца, зарэгістраваны для кампаніяў з Расіі, Кітаю, Тайваню і Паўднёвай Карэі. За імі ідуць кампаніі з шмат якіх вядучых прамысловых краін, дзе ўжо ёсць законы, паводле якіх даванне хабару замежным чыноўнікам кваліфікуецца як злачынства. Градацыя па шкале ад 0 да 10 балаў (10 балаў адпавядаюць найвышэйшай ступені «карупцыйнай чысціні») адлюстроўвае ўзровень таго, наколькі, на думку рэспандэнтаў, тамтэйшыя фірмы гатовы да хабарніцтва.

Як паказвае «Індэкс хабарнікаў-2002», кампаніі з Расіі і Кітаю, якія павялічваюць свой экспарт у іншыя краіны, што развіваюцца, выкарыстоўваюць хабар «у вялізных і непрымальных памерах». Ненашмат адстаюць ад іх кампаніі з Тайваню і Паўднёвай Карэі.

Карупцыйная экспансія расійскага бізнесу нарадзілася не на пустым месцы. Яна шчыльна звязана з векавой народнай традыцыяй, сфармуляванай у вядомай прыказцы: «Не падмажаш – не паедзеш». Шараговыя расіяне тут ані не саступаюць алігархам. Розніца толькі ў сумах кожнага асобнага хабару. Што да выніковай сумы, дык тут яшчэ паглядзець трэба, хто каго. Цікавую інфармацыю паведаміла *lenta.ru*:

Не менш за 37 мільярдаў даляраў штогод выдаткоўваюць расійскія грамадзяне на хабар розным службовым асобам. Такія вынікі прынесла даследаванне паліталагічнага фонду ІНДЭМ, прадстаўленае 21 траўня прэзідэнтам фонду Георгіем Сатаравым на прэс-канферэнцыі ў цэнтральным офісе «Інтэрфаксу» ў Маскве.

| Рэйтынг | Краіна | Бал |
|---|---|---|
| 1 | Аўстралія | 8,5 |
| 2 | Швецыя | 8,4 |
| 2 | Швейцарыя | 8,4 |
| 4 | Аўстрыя | 8,2 |
| 5 | Канада | 8,1 |
| 6 | Нідэрланды | 7,8 |
| 9 | Сінгапур | 6,3 |
| 9 | Германія | 6,3 |
| 11 | Іспанія | 5,8 |
| 12 | Францыя | 5,5 |
| 13 | ЗША | 5,3 |
| 13 | Японія | 5,3 |
| 17 | Італія | 4,1 |
| 20 | Кітай | 3,5 |
| 21 | Расія | 3,2 |

Як адзначыў Сатараў, узровень карупцыі ў Расіі за апошнія дзесяць гадоў «як мінімум не змяншаецца».

Паводле ягоных словаў, такую высновы льга зрабіць на падставе доследаў, якія праводзіў ягоны фонд цягам апошніх некалькіх гадоў.

Нагадаем, што, згодна з вынікамі праверкі, праведзенай у 2001 годзе аўдытарскай кампаніяй *PricewaterhouseCoopers*, Расія мае найвышэйшыя паказчыкі ўзроўню карупцыі.

ПРАТЭСТ

# «Віцязь» не хоча працаваць у старасці

**На віцебскім тэлезаводзе «Віцязь» збіраюцца подпісы пад лістом, якім выказваецца нязгода са зместам праекту Закону Рэспублікі Беларусь «Аб дзяржаўным пенсійным страхаванні».**

У прыватнасці, у лісце заяўляецца пра нязгоду з прапанаваным у тэксце закону паступовым павелічэннем узросту выхаду на пенсію да 62 з паловай гадоў для мужчын і 60-ці для жанчын. Аўтары ліста падаюць наступную статыстыку дзеля абгрунтавання сваёй пазіцыі: за дзесяць гадоў з 1990 да 2000 г. сярэдняя працягласць жыцця на Беларусі зменшылася з 71,1 да 69 гадоў, прычым жанчыны сталі за гэты час жыць прыкладна на адзін год меней, а мужчыны – на тры.

Подпісы пад калектыўнымі «лістамі пратэсту» будуць збірацца і на іншых віцебскіх прадпрыемствах гэтае галіны.

**Міхаіл ЧАРВІНСКІ**

# Урад прапануе забыць пра пенсіі

Вячаслаў КУЛІ КОЎСКІ

***Выхаваўчы працэс у асяроддзі беларускіх міністраў, у чарговы раз распачаты А.Лукашэнкам на нарадзе па выніках працы народнай гаспадаркі ў першым квартале і выплюханы ў народ праз тэлешоу на БТ, прадоўжыўся ў публічнай лупцоўцы сваіх падначаленых прэм'ер-міністрам Генадзем Навіцкім. Зноў чырванелі пад напорам крытыкі віцэ-прэм'ер Андрэй Кабякоў, міністр фінансаў Міхаіл Корбут, міністр працы і сацыяльнай абароны Антаніна Морава.***

Кіраўнік ураду мае суворыя прэтэнзіі да высокіх чыноў за невыкананне імі даручэння прэзідэнта аб поўным і своечасовым пагашэнні выплатаў пенсійнай дапамогі. Аказваецца, што крык на жанчыну: «Вы захапіліся чубайсаўшчынай у краіне... і мне, як дурачку, прабачце, даводзіцца апраўдвацца...» успрымаецца як вярхоўнае даручэнне. Паводле яго, міністр Антаніна Морава павінна была мабілізаваць сваё ведамства і цягам некалькіх дзён пасля разгону ад Лукашэнкі выдаць на рукі кожнаму з пенсіянераў затрыманыя грошы. Крайні тэрмін для гэтай радасці ў краіне, дзе за пенсію старых харчуецца яшчэ армія дзяцей і ўнукаў, быў прызначаны ў спушчаных зверху цыркулярах да 9 траўня. І хоць даверлівы электарат падбадзёрыўся ў спадзяваннях, але бальшыню яго гэтым разам ашукалі. Не ўратавалі становішча і авантурныя захады «бягучага характару», як, прыкладам, прынятае Саветам міністраў 8 траўня пастановы аб накіраванні на выплату пенсій 23 мільярдаў рублёў за кошт змяншэння асігнаванняў на аздараўленне насельніцтва. 21 траўня на паседжанні прэзідыуму Савету міністраў Антаніна Морава заявіла пра магчымасць новых затрымак з выплатай пенсій.

– Я баюся, – даводзіла А.Морава да прысутных у кіраўнічым штабе ўлады, – што праз нейкі час мы можам сутыкнуцца з сітуацыяй, калі ўзнікне запазычанасць па выплаце пенсій. Я павінна пра гэта сказаць сумленна і адкрыта, бо Міністэрства працы і сацыяльнай абароны прааналізавала сітуацыю, і мы бачым, што прапанаваныя захады бягучага характару не дазволяць у поўнай ступені нам вырашыць тую задачу, якая пастаўлена прэзідэнтам».



Фота В.Шлапака

Не хацелася б сурочыць, што гэтыя словы шчырай жанчыны абернуцца ёй адстаўкаю як міністра, але Генадзь Навіцкі не ўтойваў сваёй раздражнёнасці адносна цяперашніх высілкаў кіраўніка сацыяльнага ведамства. Калі прэзідэнт пакінуў ёй шанец на нявызначаны тэрмін, выгаворваючы: «Я не хацеў бы думаць, Антаніна Пятроўна, што я памыліўся ў Вас», то ўпраўца ніжэйшага рангу назваў 10 чэрвеня як апошнюю каляндарную дату, калі Антаніна Морава мусіць прадставіць кіраўніку ураду «ўсе вычарпальныя захады па праблемным пытанні». Урад, паводле словаў Генадзя Навіцкага, жадае забыць пра пенсіі, як гэта было цягам папярэдніх 7 гадоў. Напэўна, сам, маючы «апошняе папярэджанне», прэм'ер-міністр раўніва ставіцца да хлебасольнага перадвыбарнага перыяду да 9 верасня 2001 году. Але грошы для выплаты пенсіі тады друкавалі вагонамі. Цяпер іх даводзіцца адрабляць. А што надзвычай цяжка гэта зрабіць, можна меркаваць паводле эканамічнай сітуацыі ў мясцінах, адкуль перабраўся ў Мінск Лукашэнка, – на Магілёўшчыне. 20 траўня на паседжанні тамтэйшага аблвыканкаму ягоны старшыня Барыс Батура паведаміў, што па выніках першых месяцаў у вобласці выкананы прагнозныя паказчыкі толькі ў сферах платных і бытавых паслуг і абароту тавараў. Прамысловыя прадпрыемствы за гэты перыяд вырабілі прадукцыі на 5 працэнтаў менш, чым за адпаведны перыяд мінулага году. У красавіку сёлета аб'ёмы прамысловай вытворчасці ў вобласці склалі 87,9 працэнта да ўзроўню красавіка 2001 году. 32 працэнты прамысловых прадпрыемстваў знізілі аб'ёмы вытворчасці. Запасы гатовай прадукцыі на складах, па звестках на 1 траўня, дасягнулі 88 мільярдаў рублёў, альбо 66 працэнтаў ад штомесячнага аб'ёму вытворчасці. Страты аб'ёмаў знешнегандлёвага абароту, у параўнанні з леташнім узроўнем, склалі 6,2 працэнта. Нядоімка ў бюджэт перавысіла 26 мільярдаў рублёў.

І не толькі на Магілёўшчыне, а і ў іншых рэгіёнах кіраўнікі прадпрыемстваў усё часцей ухіляюцца ад абавязковых адлічэнняў у Фонд сацыяльнай абароны. Пастаўленыя перад крытычным выбарам: плаціць найперш заробак альбо адрываць 35% ад фонду зарплаты на рахунак пенсійнага ведамства, кіраўнікі заводаў і фабрык свядома робяць выбар на карысць таго, за што іх могуць выкінуць з крэсла. Рабочы клас нельга дражніць галодным. Патаемную практыку прысабечвання сродкаў ад Фонду сацыяльнай абароны пакрываюць і мясцовыя «вертыкальшчыкі». Яны ўпэўніліся, што «патрон» паддобрываецца да свайго электарату, і зноў спадзяюцца, што і гэтым разам на выплату пенсій развяжацца грашовы мех якога-небудзь прэзідэнцкага фонду. Пра глыбокую трэшчыну, што пралегла зараз між рэальнай эканомікай і сацыяльнай сферай, нагадвае ўмяшанне Нацыянальнага банку ў працэс фінансавага забеспячэння Фонду сацыяльнай абароны. У адмысловым лісце, які быў 20 траўня накіраваны ва ўсе банкі краіны, даводзіцца, што плацяжы ў гэты фонд ажыццяўляюцца ў пазачарговым і ў першачарговым парадку. Банкам рэкамендавана правесці растлумачальную працу з кліентамі па выкананні імі патрабаванняў шэрагу нарматыўных прававых актаў. У тым ліку – Палажэння аб уплаце абавязковых страхавых узносаў і іншых плацяжоў у Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва Міністэрства працы і сацыяльнай абароны, у адпаведнасці з якім плацяжы ў фонд ажыццяўляюцца ў першачарговым парадку, а ў выпадках, вызначаных заканадаўствам, – у пазачарговым парадку. Размова таксама ідзе пра выкананне інструкцыі аб парадку залічэння сродкаў Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва на рахункі, іх уліку і выкарыстанні, зацверджанай пастановай праўлення фонду ад 20 сакавіка гэтага году.

# Польская пральня Лукашэнкі

## Беларускія фірмы адмываюць у Польшчы грошы за гандаль зброяй

Беларусь пад уладай Аляксандра Лукашэнкі – найбуйнейшы пастаўшчык зброі ў экстрэмісцкія краіны: так сцвярджае Камітэт абароны Кангрэсу ЗША. Нямецкае агенцтва *DPA*, грунтуючыся на крыніцах з ЦРУ, паведаміла нядаўна, што Беларусь прадае зброю, у прыватнасці, арабскім тэрарыстычным арганізацыям. Ізраільская разведка абвінаваціла рэжым Лукашэнкі ў пастаўках Іраку і Лівіі кампанентаў для ядзернай зброі. Іраку Беларусь да таго ж прадала ракеты *SA-3*, расійскія ракеты «*Стрела*», а таксама аптычныя сістэмы да зенітных і і супрацьтанкавых гармат. У Анголу ішлі танкі і сістэмы кіравання агнём «Смерч». Судану пастаўляліся ракетныя сістэмы «Град», танкі Т-55, верталёты Мі-24В. Супрацьтанкавымі гранатамётамі, мінамі і аўтаматычнаю зброяй Беларусь забяспечвала албанцаў у Македоніі.

Прадаючы зброю тэрарыстам, Беларусь парушае свае міжнародныя абавязанні. Рэжым Лукашэнкі нясе тым самым пэўную адказнасць за акты тэрору (напрыклад, у Ізраілі) і за рэпрэсіі розных рэжымаў супраць уласных народаў (прыкладам, у Іраку).




**Алжыр** – Міг-29, Су-24МК
**Ангола** – БМП, БТР-80, Су-27С
**Кітай** – тылавое абсталяванне, камандныя комплексы
**Эфіопія** – Т-55М
**Ірак** – абсталяванне для вырабу кампанентаў ядзернай зброі; абсталяванне для ваенных і цывільных мэтаў
**Іран** – Т-55, Т-62, Т-72
**Краіны былой Югаславіі** – боепрыпасы, стралковая зброя
**Конга** – рэактыўная сістэма залпавага агню БМ-21 «Град»
**Паўночная Карэя** – Т-55
**Лівія** – сістэмы супрацьпаветранай абароны; абсталяванне падвойнага прызначэння
**Марока** – Т-72
**Пакістан** – супрацьтанкавыя снарады
**Палесціна** – боепрыпасы, стралковая зброя
**Папуа-Новая Гвінея** – МІ-24
**Перу** – МіГ-29, Су-25, ракеты «паветра-паветра»
**Сьера-Леонэ** – МІ-24
**Судан** – Т-55, МІ-24, стралковая зброя, боепрыпасы
**Уганда** – МІ-24

### Зброі – на два мільярды даляраў

Згодна са звесткамі Стакгольмскага інстытуту мірных даследаванняў (*SIPRI*), у 1997–2000 гадах рэжым Лукашэнкі зарабіў на гандлі зброяй звыш мільярда даляраў. Павел Казлоўскі, былы міністр абароны Беларусі, сцвярджае, што ў сапраўднасці Беларусь прадала зброі больш чым на два мільярды даляраў. Розніца ішла на тайныя банкаўскія рахункі Лукашэнкі, адкрытыя ў «падатковых раях», або ў ягоны «прэзідэнцкі фонд», на якім у нейкі момант знаходзілася каля мільярда даляраў. Грошы, атрыманыя за гандаль зброяй, адмываліся праз дзесяткі фірмаў і фінансавых інстытутаў амаль у дваццаці краінах, у тым ліку і ў Польшчы.

### Гандляры з КДБ

Высветліць, якім чынам, пры пасярэдніцтве якіх фірмаў рэжым Лукашэнкі нелегальна гандлюе зброяй і адмывае грошы з гэтых здзелак, нам дапамагалі беларускія журналісты і апазіцыйныя дзеячы. Матэрыялы збіраліся, між іншым, шляхам размоваў з некалькімі дзесяткамі супрацоўнікамі супрацоўнікаў фірмаў, якія бяруць удзел у гэтай працэдуры. Супастаўленне розных звестак паказвала, што ўсе ніткі вядуць у беларускі КДБ. З ведама Лукашэнкі КДБ стварыў сетку фірмаў і банкаў, якія не толькі гандлююць зброяй і адмываюць грошы, але і пастаўляюць розныя тавары ў краіны, гандлёвы абмен з якімі кантралюецца міжнароднымі арганізацыямі. Спраўджваючы, што робяць беларускія прадстаўніцтвы за мяжой, мы высветлілі, што гэтыя фірмы займаюцца таксама вывазам і продажам нафты з Іраку – рэжым Садама Хусейна не можа прадаць нафты больш, чым прадугледжваюць ліміты, вызначаныя ААН.

Нашым інфарматарам з Беларусі ўдалося пацвердзіць, што высылкай зброі і вайсковага абсталявання займаецца кантраляваная дзяржаваю фірма «Белспецзнештэхніка» і прыватная фірма «Белтэхэкспарт». Каб атрымліваць кантракты і завязваць сувязі, абедзве фірмы карысталіся з дапамогі замежных прадстаўніцтваў беларускіх фірмаў – галоўным чынам МАЗу, які мае філіялы ў 40 краінах свету.

### «Інфабанк» – каардынатар

Ува ўсіх аперацыях, звязаных з гандлем зброяй і іншымі таварамі, фігуруе «Інфабанк» (кіраваны блізкімі супрацоўнікамі Аляксандра Лукашэнкі), які складае частку холдынгу банкаўскіх паслугаў *Infogroup*. «Інфабанк» – нешта накшталт каардынатара і наглядчыка за гэтымі аперацыямі. Найважнейшыя пасярэднікі ў перапампоўванні капіталу з нелегальных аперацыяў – «Белметалэнерга» (дачыная фірма «Інфабанку») і *Capital and Business Management SA*, з сядзібаю ў Вене. З дакументаў, да якіх мелі доступ нашы інфарматары ў Мінску, вынікае, што грошы з *Capital and Business Management SA* вандруюць на рахункі больш як дзесятка фірмаў у падатковых раях – на Кайманах, выспах Мэн і Джэрсі і на Віргінскіх астравах. Адтуль яны перапраўляюцца ў замежныя прадстаўніцтвы беларускіх фірмаў (тыя атрымліваюць фіктыўныя даручэнні на розныя паслугі і тавары, а потым на іх рахункі прыходзіць плата за рэалізацыю гэтых даручэнняў). Бальшыня гэтых фірмаў – так званыя аднадзеўкі, якія не вядуць ніякай гаспадарчай дзейнасці. Адна з іх – *MAZ Auto Poland* з Пясэчна.

У ходзе некалькіх здзелак, дакументацыю якіх адкапалі нашыя беларускія інфарматары, *Capital and Business Management SA* перадаваў грошы на адмыцьцё непасрэдна беларускім фірмам у розных краінах, напрыклад, у Польшчы, у Венгрыі ці ў Славакіі. Пазней гэтыя фірмы пераводзілі грошы ў Беларусь (на рахункі «Белспецзнешатэхнікі» і «Белтэхэкспарту»). Адмытыя грошы легальна размяшчаліся на рахунках *Capital and Business Management SA* альбо на рахунках фірмаў, залежных ад *Capital*, у тым ліку *Balmorals Ltd., Ledok* і *Silvertex*, якія дзейнічаюць у згаданых падатковых раях.

Пасля шматлікіх міжнародных пераводаў практычна немагчыма высветліць, адкуль паходзілі адмытыя грошы. Тым больш што беларускія фірмы не адмываюць за адным разам вялікіх сумаў, а б'юць іх на часткі па некалькі дзесяткаў тысяч даляраў, не будзячы падазрэнняў органаў фінансавага кантролю. Прыблізна два гады таму распачалася праверка беларускіх фірмаў у Польшчы з пункту гледжання адмывання грошай. Асаблівая ўвага была звернута на дзве фірмы – *MAZ Auto Poland* (польскае прадстаўніцтва мінскага МАЗу) і *InterEkma* (на пачатку 90-х гадоў гэта была польска-беларуская фірма, потым выключна беларуская).

### MAZ Auto Poland, альбо польскі сувязны

Сядзіба фірмы *MAZ Auto Poland* у Пясэчне – прыбудоўка плошчаю крыху болей за 40 м². У рэгістрацыйных дакументах фірмы няма ніводнае фінансавае справаздачы (складанне штогадовых справаздач – абавязак уладальніка). У актах *MAZ Auto Poland* мы не знайшлі ніводнага дакументу, які пацвердзіў бы, што фірма праводзіла хоць якую дзейнасць. У рэестр заносіліся толькі новыя адрасы сядзібы фірмы і чарговыя прозвішчы сяброў праўлення, якое складаецца з трох чалавек.

Юрый Міхайлоўскі, віцэ-старшыня *MAZ Auto Poland*, не можа патлумачыць, чаму фірма не прадстаўляе справаздач са сваёй дзейнасці. «Тут няма чаго шукаць», – кажа ён. Зазначае, што ў фірме былі кантралёры з польскага фіндаздзелу і правяральшчыкі з Беларусі. Хоць *MAZ Auto Poland* мае ў Польшчы гандляваць аўтамабілямі, Міхайлоўскі не арыентуецца, з якой колькасцю фірмаў заключаны дамовы. На пытанне, колькі машын удалося прадаць у мінулым годзе, адказвае: «Няшмат». Не ведае, было гэта 5, 10 ці 100 штук.

Ад інфарматара, які ў мінскім «Інфабанку» дакументаваў пераводы грошай паміж *Capital and Business Management SA* і філіяламі МАЗу ў Сярэдняй Еўропе, мы даведаліся тым часам, што на пачатку 2001 году на рахунак *MAZ Auto Poland* паступіла першая сума з венскай фірмы. *MAZ Auto Poland* меўся выканаць для яе «кансалтынгавыя паслугі», з якіх нават не плаціў падатку на дабаўленую вартасць ад нібыта аказаных ім паслугаў. Пазней такіх пераводаў было больш за прынамсі дзесятак. Справу расследуе цяпер генеральны інспектар фінансавай інфармацыі Яцэк Учкевіч.

### Рэзідэнт Пефціеў

Яшчэ адна фірма, якая дзейнічае ў Польшчы і замяшана ў гандаль зброяй, – *InterEkma*, закладзеная Уладзімірам Перфільевым, пазней адным з творцаў згаданага ўжо «Белтэхэкспарту». Як высветлілі беларускія журналісты, Пефціеў часта бываў у Варшаве, дзе сустракаўся з кліентамі з краін, зацікаўленых купляю зброі з Беларусі, асабліва расійскіх зенітных ракет «*Стрела*». Пасля адной з такіх сустрэч, увосень 2001 году, Пефціева папярэдзілі, што ім зацікавілася польская контрразведка. Бізнесмен адразу вярнуўся ў Беларусь. Праз чатыры тыдні ён стаў шэфам будапешцкага філіялу «Белтэхэкспарту».

**Ян ЧУРЫЛОВІЧ,**
**Віялета КРАСНОЎСКАЯ,**
**WPROST**

МЕХАНІКА

## Беларускія пастаўшчыкі зброі

**«Белтэхэкспарт» – адна з дзвюх самых значных фірмаў, што нелегальна пастаўляюць зброю ў краіны, у дачыненні да якіх уведзена эмбарга, – узнік на пачатку 1993 году.**

Сярод яго пайшчыкаў апынуўся Грыгорый Лучанскі, якога следчы камітэт Кангрэсу ЗША падазрае ў нелегальнай перадачы грошай на выбарчую кампанію прэзідэнта Біла Клінтана. У фірме працуюць галоўным чынам былыя і цяперашнія агенты КДБ, якія маюць шырокія кантакты за мяжою. Яны працягваюць справы, якія вёў раней СССР у Афрыцы, Паўднёвай Амерыцы і на Блізкім Усходзе.

Другая важная фірма, якая нелегальна высылае зброю – «Белспецзнешттэхніка», – пастаўляе «спецыяльнае абсталяванне» і многае іншае ў Анголу, Эфіопію і Судан, а з нядаўняга часу і ў Кітай і В'етнам. Кіраўнікі «Белтэхэкспарту» апынуліся ў складзе афіцыйнай дэлегацыі Беларусі, якая ўвесну 2000 году наведала Лівію. Тады быў падпісаны кантракт на пастаўку ў Лівію – за пасярэдніцтвам «Белтэхэкспарту» – бронемашын, сістэмаў супрацьпаветранай абароны, сістэмаў начнога назірання для МІГаў, лёгкай зброі і 300 грузавікоў, прыстасаваных для ўсталявання на іх ракетных сістэмаў.

Зброя, што прадаецца праз «Белтэхэкспарт» і «Белспецзнештэхніку» ў краіны, у дачыненні да якіх уведзена эмбарга, грузіцца ў самалёты (з гэтай мэтаю пазычаюцца ўкраінскія «Русланы») і транспартуецца непасрэдна да пакупніка або ў сумежныя краіны. Самалёты стартуюць з вайсковага аэрадрому ў Мачулішчах пад Мінскам. Склад беларускай зброі, якая перакідаецца ў Афрыку, знаходзіцца ў Судане, дзе «Белтэхэкспарт» мае ўласную перавалачную базу і грузавікі.

**WPROST**

## понедельник 27 мая

### БТ

**06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 23.45** Новости.

**06.10, 07.10, 08.10** Доброе утро, Беларусь!

**09.10, 17.05** «Люди в штатском». Сериал.

**10.00** Арсенал. Программа об армии.

**10.30** Телебарометр. Прогноз погоды.

**11.00, 21.50** «Семейные узы». Сериал.

**12.20** Час профессионала.

**12.45** Волшебная шкатулка «Союзмультфильма». «Василиса Прекрасная».

**13.00** Н.Ерёменко-мл. в детективе **«ТРАКТИР НА ПЯТНИЦКОЙ»** («Мосфильм»).

**14.30** «Пой, душа!» Обряд Юрия в Березинском районе.

**15.20** Детективный сериал «Жюли Леско» (Франция).

**18.00** Новости

**18.25** Зона Икс.

**18.35** Ж.Депардье в мелодраме **«МОСТ МЕЖДУ ДВУХ БЕРЕГОВ»** (Франция).

**20.00** Главный вопрос.

**20.40** Калыханка

**21.00** Панорама. Информационный канал.

**22.45** Стадион.

**23.10** Планета «АРТ».

**00.05** Ночной сеанс. К.Ривз в триллере **«НАБЛЮДАТЕЛЬ»** (США).

### ОРТ

**16.00** Большая стирка.

**17.00** Вечерние новости.

**17.25** «С легким паром!» В гостях у Михаила Евдокимова.

**18.00** Жди меня.

**19.00** «Слабое звено». Игровое шоу.

**20.00** Время.

**20.35** Детективный сериал «Империя под ударом. Охота на губернатора».

**21.40** Независимое расследование. «Опять «Властилина».

**22.30** Ночное «Время».

**23.00** «На футболе». Премьера док.фильма «Нигматуллин. Вратарь республики».

**23.30** Ночная смена.

### РТР

**08.00, 10.00, 16.00, 19.00** Вести.

**08.10** Премьера. «Это - Голливуд!» Сериал (США).

**09.20** Премьера РТР. Док.сериал «Граница». Фильм 1-й. «Конфликт местного значения».

**10.20** Брук Лэнгтон в остросюжетном сериале «Сеть» (США). 1997 г.

**16.20** И.Муравьева, Е.Коренева и И.Калныньш в телесериале «С новым счастьем!».

**17.10** Афиша.

**17.20** Вести - Москва.

**17.50** «Комиссар Рекс». Сериал.

**18.50** Спокойной ночи, малыши!

**19.35, 22.20** Местное время. Вести - Москва.

**19.55** Ю.Беляев, О.Мысина, Н.Добрынин, М.Могилевская, А.Панин и С.Чонишвили в многосерийном худ.фильме **«СЕМЕЙНЫЕ ТАЙНЫ»**.

**20.55** А.Балуев, Д.Харатьян и В.Глаголева в детективе **«МАРОСЕЙКА, 12»**. Фильм 6-й. «Бабье лето». Часть 1-я.

**21.45** Дорожный патруль.

**22.00** Вести - Подробности.

**22.30** «Театр + ТВ». Капустник «Театральное лето».

**00.30** Дежурная часть.

### НТВ

**07.00, 07.30, 09.00, 11.00, 13.00, 15.00, 23.10** Сегодня.

**07.10, 07.35** Утро на НТВ.

**07.50** Детектив **«СЫЩИКИ»**.

**09.20** Погода на завтра.

**09.25** «Намедни» с Леонидом Парфеновым.

**10.40** Куклы.

**11.20, 14.40, 17.35** Криминал.

**11.35** КГБ против ЦРУ. Детектив **«ТАСС УПОЛНОМОЧЕН ЗАЯВИТЬ...»** 6-я серия.

**13.20** «Принцип «Домино». Ток-шоу.

**15.30** Тайны индийских йогов. Сериал «Неизвестная планета».

**16.35** От создателя «Армагеддона», «Скалы», «Воздушной тюрьмы». Боевик **«ГРЯЗНАЯ РАБОТА»** (США). 10-я серия.

**18.00, 21.00** «Сегодня» с Петром Марченко.

**18.35** Многосерийный остросюжетный фильм **«ЧЕРНЫЙ ВОРОН»**. 9-я серия.

**19.45** Премьера. Криминальная драма **«ПО ИМЕНИ БАРОН...»** 1-я серия.

**21.35** Герой дня.

**22.05** «Скорая помощь-3». Сериал (США).

**23.30** Гордон.

### КУЛЬТУРА

**09.15** Магия кино.

**09.40, 16.35** «Наука невозможного». «Невидимые силы».

**10.35** «Ох, уж эти детки!» Мультсериал.

**10.45** Тем временем.

**11.30, 15.00, 17.30, 23.00** Новости культуры.

**11.40** «Приключения Болека и Лелека». Мультсериал.

**11.50** Вместе с Фафалей.

**12.05** «Тесные врата». Святитель Николай Японский.

**12.20** «Экология литературы». Василий Гроссман. Виктор Некрасов. Юлий Даниэль.

**13.15** «Уроки русского». Н.В.Гоголь. «Мертвые души». Читает Михаил Ульянов.

**13.30** «Ступени к славе». Сериал (Италия, 2000). Режиссер Х.М.Санчес.

**14.30** Alma mater.

**15.10** «Двенадцать месяцев». Мультфильм.

**16.05** «Цитаты из жизни». Валерий Лукин.

**17.50** «Век Русского музея». Авторская программа В.Гусева.

**18.15** Сценограмма.

**18.45** «Час музыки». Конкурс им. П.И.Чайковского. Избранное.

**19.45** «Рекс». Мультсериал.

**20.10** К 65-летию писателя. Андрей Битов в авторской программе «Возвращение».

**20.50** «Театральная Россия». Н.Садур. «Уличенная ласточка». Спектакль Московского театра «Бенефис». Режиссер А.Неровная.

**22.30** «Вокзал мечты». Авторская программа Ю.Башмета.

**23.25** «Ночной полет». Ведущий А.Максимов.

### 8 КАНАЛ

**17.30** Мультфильм «Том и Джерри».

**17.35** «Простой вопрос».

**17.45** Программа Алена Жобера «Палитра».

**18.15** «Должно быть они сошли с ума!».

**18.40** «Прогноз погоды».

**18.45** Евгений Леонов в комедии **«ЗИГЗАГ УДАЧИ»** (1968 г.).

**20.15** «Увесь свет у далоні».

**20.20** Телемагазин.

**20.25** «Вечарніца».

**20.40, 23.15** Новости.

**20.50** «Комкон-тур» представляет: «Отдыхаем в Румынии» (Черноморские курорты).

**21.00** Клип-антракт.

**21.15** Вуди Харрельсон в детективе **«ПАЛМЕТТО»**.

### СТВ

**06.00, 16.45** Минщина. Люди, события, факты.

**06.15** «Дискавери на СТВ».

**06.45, 16.05** «Пауэр рейнджерс, или Могучие рейнджеры». Сериал.

**07.10** Мультсериалы: «Мир Бобби», «Икс-мен», «Инспектор Гаджет».

**08.30, 20.20** «Арт-экспресс». Культурная жизнь столицы.

**08.45** Мистический триллер **«ЧУЖАКИ»**.

Конец XIX столетия. Старик-проводник Грэйди идет во главе небольшого отряда мечтающих разбогатеть золотоискателей. Путь странников пролегает через принадлежавшие индейцам территории и кладбища. С определенного момента золотоискателям начинает сниться один и тот же сон. Призраки умерших не дают им покоя...

Режиссер: Майкл Богуш.

В ролях: Джек Илэм, Кристофер Бойер, Бэри Бакнер, Ино Брутто.

**11.00** «168 часов».

**12.00** Новости мировой шоу-индустрии.

**12.30** Канал истории: «Энди Уорхолл». Док. фильм.

**13.30, 16.30, 19.00, 23.05** «24 часа».

**13.45** «Аквариум, или Одиночество шпиона». Сериал. Заключительная серия.

**14.50** Мультсериалы: «Инспектор Гаджет», «Икс-мен», «Мир Бобби».

**17.00** «Яго, темная страсть». Теленовелла.

**18.00** «Очевидец».

**18.30** «СТВ-спорт». Телеальманах.

**18.50** «Тема дня».

**19.15** «Добрый вечер, малыш...».

**19.30** «Портрет в интерьере».

**19.45** «Здравствуйте, доктор!».

**20.00** «Добро пожаловаться».

**20.10** «Виртуальный мир».

**20.35** Новости СНГ.

**20.50** «Европа - общее наследие».

**21.00** Боевик **«ЗАВТРА НЕ ПРИДЕТ НИКОГДА»**.

ФБР планирует нанести мощный удар по мафиозной группировке. В банду засылается секретный агент - отважная девушка Лара. Главарь группировки Ной - желанная добыча не только для представителей закона, но и афроамериканской мафии, которая также внедрила своего человека в организацию Ноя...

Режиссер: Мастер Пи.

В ролях: Гэри Бьюзи, Гэри Дэниэлс, Мастер Пи, Пэм Грир.

**23.20** Футбольный курьер.

**00.00** Ночной музыкальный канал.

**00.45** Музыка на СТВ.



## вторник 28 мая

### БТ

**06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 18.00, 00.00** Новости.

**06.10, 07.10, 08.10** Доброе утро, Беларусь!

**09.15, 17.05** «Люди в штатском». Сериал.

**10.05** Стадион.

**10.35, 15.45** «Грозовые камни». Сериал для детей (Австралия).

**11.00, 21.50** «Семейные узы». Сериал.

**12.20** Добрый день, Беларусь!

**13.05** **«ЛЮДИ НА БОЛОТЕ. ПОЛЕССКАЯ ХРОНИКА»**. Худ. фильм. 5-я серия «Сугробы на дорогах».

**14.15** Док. сериал «Сокровища мировой культуры» (Германия).

**14.30** Звёзды кинофестивалей в программе «Телевизионный Дом кино».

**15.20** «Маленькие хитрецы». Док.сериал. Заключительная серия.

**16.10** «Пять чудес».

**16.20** «5 х 5». Информационно-развлекательная программа для старшеклассников.

**18.25** Зона Икс.

**18.35** К Дню пограничника. «Шаги по западной границе». Док. фильм.

**19.15** А.Филиппенко в приключенческом фильме **«О ВОЗВРАЩЕНИИ ЗАБЫТЬ»**. («Молдова-филм»).

**20.40** Колыбельная.

**21.00** Панорама. Информационный канал.

**22.40** Спорт-курьер.

**22.55** **«К РАССЛЕДОВАНИЮ ПРИСТУПИТЬ»**. Худ. фильм. Фильм 2-й «Клевета». 1-я серия.

### ОРТ

**08.00** Новости.

**08.15** Жди меня.

**09.15** «С легким паром!» В гостях у Михаила Евдокимова.

**09.45** Слабое звено. Игровое шоу.

**10.45** «Ералаш».

**10.50** Библиомания.

**11.00** Новости (с субтитрами).

**15.00** Детективный сериал «Империя под ударом. Охота на губернатора».

**16.00** Большая стирка.

**17.00** Вечерние новости.

**17.25** Смехопанорама Евгения Петросяна.

**17.55** «Семейные узы». Сериал.

**18.50** К Дню пограничника. Александр Панкратов-Черный в боевике **«КАРАВАН СМЕРТИ»**.

**20.00** Время.

**20.35** Детективный сериал «Империя под ударом. Бастард».

**21.40** Лубянка. «Л.Троцкий. Обречен на убийство». Часть 1-я.

**22.30** Ночное «Время».

**23.00** Цивилизация. Вацлав Нижинский.

**23.30** Ночная смена.

### РТР

**08.00, 10.00, 16.00, 19.00** Вести.

**08.10** Премьера. «Это - Голливуд!» Сериал (США).

**09.20** Премьера РТР. Док.сериал «Граница». Фильм 2-й. «Чужая земля».

**10.20** Брук Лэнгтон в остросюжетном сериале «Сеть» (США). 1997 г.

**16.20** И.Муравьева, Е.Коренева и И.Калныньш в телесериале «С новым счастьем!».

**17.10** Афиша.

**17.20** Вести - Москва.

**17.50** «Комиссар Рекс». Сериал.

**18.50** Спокойной ночи, малыши!

**19.35, 22.20** Местное время. Вести - Москва.

**19.55** Ю.Беляев, О.Мысина, Н.Добрынин, М.Могилевская, А.Панин и С.Чонишвили в многосерийном худ.фильме **«СЕМЕЙНЫЕ ТАЙНЫ»**.

**20.55** А.Балуев, Д.Харатьян и В.Глаголева в детективе **«МАРОСЕЙКА, 12»**. Фильм 6-й. «Бабье лето». Часть 2-я.

**21.45** Дорожный патруль.

**22.00** Вести - Подробности.

**22.30** Концерт, посвященный Дню пограничника.

**23.35** Последний сеанс. К Дню пограничника. Евгений Киндинов, Александр Галибин и Владимир Самойлов в остросюжетном фильме **«ТРЕВОЖНЫЙ ВЫЛЕТ»**. 1983 г.

### НТВ

**07.00, 07.30, 09.00, 11.00, 13.00, 15.00, 23.10** Сегодня.

**07.10, 07.35** Утро на НТВ.

**07.50** **«ЧЕРНЫЙ ВОРОН»**. Многосерийный остросюжетный фильм.

**09.20** Погода на завтра.

**09.25** «Внимание. Розыск!» «Воронежская Вендетта».

**10.20** «Очная ставка». «Сиамские близнецы».

**11.20, 14.40, 17.40** Криминал.

**11.30** КГБ против ЦРУ. Детектив **«ТАСС УПОЛНОМОЧЕН ЗАЯВИТЬ...»** 7-я серия.

**13.20** «Принцип «Домино». Ток-шоу.

**15.30** **«ПО ИМЕНИ БАРОН...»** Криминальная драма.

**16.40** Боевик **«ГРЯЗНАЯ РАБОТА»** (США). 11-я серия.

**18.00, 21.00** «Сегодня» с Петром Марченко.

**18.35** Многосерийный остросюжетный фильм **«ЧЕРНЫЙ ВОРОН»**. 10-я серия.

**19.45** Криминальная драма **«ПО ИМЕНИ БАРОН...»** 2-я серия.

**21.35** Герой дня.

**22.05** «Скорая помощь-3». Сериал (США).

**23.30** Гордон.

### КУЛЬТУРА

**09.15** Графоман.

**09.40, 16.35** «Наука невозможного». «Конец света».

**10.35** «Ох, уж эти детки!» Мультсериал.

**10.55** К Дню пограничника. «Остров». Док. фильм. Режиссер А.Вахрушев.

**11.30, 15.00, 17.30, 23.00** Новости культуры.

**11.40** «Приключения Болека и Лелека».

**11.50** Вместе с Фафалей.

**12.05** «Общий дом». «С песней по жизни». Док. фильм.

**12.20** «Линия жизни». Александр Митта.

**13.15** «Уроки русского». Н.В.Гоголь. «Мертвые души». Читает Михаил Ульянов.

**13.30** «Ступени к славе». Сериал (Италия, 2000). Режиссер Дж.Лазотти.

**14.30** Ток-шоу «Наобум». Татьяна Кравченко.

**15.10** Кино - детям. «Горас и Тина». Сериал (Австралия, 2001).

**15.35** «Прометей». Мультфильм.

**15.50** «Храните рукопись, о други, для себя». Передача 1-я.

**16.05** «Российский курьер». Суздаль.

**17.50** «Дворцовые тайны». «Несостоявшаяся императрица».

**18.15** «Балтийская сцена». Передача 5-я.

**18.45** «Партитуры не горят». Авторская программа А.Варгафтика.

**19.10** «XX век. Избранное». «Демоны глухонемые». Максимилиан Волошин. К 125-летию со дня рождения.

**19.50** К Дню пограничника. **«ЛЮДИ В ОКЕАНЕ»**. Худ. фильм («Мосфильм», 1980). Режиссер П.Чухрай.

**21.25** «Что делать?» Программа В.Третьякова.

**22.20** «Больше, чем любовь». «Любовь и безумие Зинаиды Райх».

**23.25** «Ночной полет». Ведущий А.Максимов.

### 8 КАНАЛ

**17.30** Мультфильм «Топтыжка и другие...».

**17.45** «Постренята».

**18.15** «Европа сегодня».

**18.40, 21.25** Прогноз погоды.

**18.45** Худ. фильм **«ПЕРЕХВАТЧИКИ»**.

**20.15, 21.20** Телемагазин.

**20.20** К-видео. «Топ-8».

**20.25** «Вечарніца».

**20.40, 23.15** Новости.

**20.50** Док. фильм «Быццам коні з далёкіх вякоў».

**21.00** Гурман-клуб.

**21.30** Худ. фильм **«СИНДИКАТ»**.

### СТВ

**06.00, 16.45** Минщина. Люди, события, факты.

**06.10, 20.00** «Виртуальный мир».

**06.20** «Добро пожаловаться».

**06.30, 20.10** Новости СНГ.

**06.45, 16.05** «Пауэр рейнджерс, или Могучие рейнджеры». Сериал.

**07.10** Мультсериалы: «Мир Бобби», «Икс-мен», «Инспектор Гаджет».

**08.30** «Портрет в интерьере».

**08.45** Гэри Бьюзи, Гэри Дэниэлс в боевике **«ЗАВТРА НЕ ПРИДЕТ НИКОГДА»**.

**11.00, 18.50** «Тема дня».

**11.10** «СТВ-спорт». Телеальманах.

**11.30** «Секретные материалы». Сериал.

**12.30** Канал истории: «Охота за атомом». Док. фильм.

**13.30, 16.30, 19.00, 23.05** «24 часа».

**13.45** «Остановка по требованию-2». Сериал.

**14.50** Мультсериалы: «Инспектор Гаджет», «Икс-мен», «Мир Бобби».

**17.00** «Яго, темная страсть». Теленовелла.

**18.00** «Очевидец».

**18.30** «Этикет».

**18.35** «СТВ-спорт».

**19.15** «Добрый вечер, малыш...».

**19.30** «Пока горит свеча...».

**20.25** «Арт-экспресс». Культурная жизнь столицы.

**20.40** «Дискавери на СТВ».

**21.00** Триллер **«ПОДСТАВА»**.

Покупая подержанный «ягуар», Верджил Гаппи не предполагал, какова будет настоящая цена этой роковой покупки. Машина сломалась, деньги ему не вернули, а вскоре в багажнике обнаружился труп проститутки. Мгновенно потеряв работу и любимую девушку, Верджил понял, что его крупно подставили. Верджил решает доказать свою невиновность и найти настоящего убийцу...

Режиссер: Гарет Рис Джонс.

В ролях: Ханс Мэтесон, Бет Уинслет, Шарлотта Коулмэн, Питер Фердинандо.

**23.20** «Иллюзион»: Психологический триллер **«М»(«УБИЙЦА»)**.

Город в страхе. Неуловимый маньяк зверски убивает маленьких детей. Криминальный мир решает своими силами изловить маньяка, чтобы власти оставили их в покое. Садист явно не принадлежит к уголовному сообществу. Он, скорее всего, незаметный, серый, тихий, невзрачный обыватель. Подозрение падает на одного из таких: коротышку Беккера...

Режиссер: Фриц Ланг.

В ролях: Петер Лорре, Отто Вернике, Густаф Грюндгенс, Тео Линген.

**01.30** Музыка на СТВ.

## среда

### БТ

**06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 18.00, 00.50** Новости.

**06.10, 07.10, 08.10** Доброе утро, Беларусь!

**09.15, 17.05** «Люди в штатском». Сериал. Заключительная серия.

**10.05** Здоровье. Тележурнал.

**10.35, 15.45** «Грозовые камни». Сериал для детей (Австралия).

**11.00, 21.50** «Семейные узы». Сериал.

**12.20** Добрый день, Беларусь!

**13.05** **«ЛЮДИ НА БОЛОТЕ. ПОЛЕССКАЯ ХРОНИКА»**. Худ. фильм. 6-я серия «Рождественские морозы».

**14.15** Док.сериал «Сокровища мировой культуры» (Германия).

**14.30** «Время местное». Репортажи из провинции.

**15.20** «Последняя резервация». Мультсериал (Международный французский канал). 1-я серия.

**16.10** «Пять чудес».

**16.20** «5 х 5». Информационно-развлекательная программа для старшеклассников.

**18.25** Зона Икс.

**18.35** «Москва - Минск».

**18.50** Детектив **«ЧЕЛОВЕК ИЗ ГРУППЫ «АЛЬФА»** (Германия). Фильм 1-й.

**20.20** «Деловые люди». Видеофильм.

**20.40** Колыбельная.

**21.00** Панорама. Информационный канал.

**22.45** Спорт-курьер.

**22.55** **«К РАССЛЕДОВАНИЮ ПРИСТУПИТЬ»**. Худ. фильм. Фильм 2-й «Клевета». 2-я серия.

**00.05** Конный спорт. Этап Кубка мира. Выездка.

**01.10** Криминальное досье.

### ОРТ

**08.00** Новости.

**08.15, 18.00** «Семейные узы». Сериал.

**09.10** Смехопанорама Евгения Петросяна.

**09.40** «Кто хочет стать миллионером?» Телеигра.

**10.40** «Ералаш».

**10.50** Библиомания.

**11.00** Новости (с субтитрами).

**15.00** Детективный сериал «Империя под ударом. Бастард».

**16.00** Большая стирка.

**17.00** Вечерние новости.

**17.25** «Кумиры». Лариса Лужина.

**19.00** Русская рулетка.

**20.00** Время.

**20.35** Детективный сериал «Империя под ударом. Хлыст».

**21.40** Лубянка. «Л.Троцкий. Обречен на убийство». Часть 2-я.

**22.30** Ночное «Время».

**23.00** Русский экстрим.

**23.30** Ночная смена.

### РТР

**07.00, 08.00, 10.00, 16.00, 19.00** Вести.

**07.10** Дежурная часть.

**07.15** Москва - Минск.

**07.30, 21.45** Дорожный патруль.

**07.40** «Пролог». Часть II.

**08.10** Премьера. «Это - Голливуд!» Сериал (США).

**09.20** Премьера РТР. Док.сериал «Граница». Фильм 3-й. «Невидимый рубеж».

**10.20** Брук Лэнгтон в остросюжетном сериале «Сеть» (США). 1997 г.

**16.20** И.Муравьева, Е.Коренева и И.Калныньш в телесериале «С новым счастьем!».

**17.10** Афиша.

**17.20** Вести - Москва.

**17.50** «Комиссар Рекс». Сериал.

**18.50** Спокойной ночи, малыши!

**19.35, 22.20** Местное время. Вести - Москва.

**19.55** Ю.Беляев, О.Мысина, Н.Добрынин, М.Могилевская, А.Панин и С.Чонишвили в многосерийном худ.фильме **«СЕМЕЙНЫЕ ТАЙНЫ»**.

**20.55** А.Балуев, Д.Харатьян и В.Глаголева в детективе **«МАРОСЕЙКА, 12»**. Фильм 7-й. «Прощай, полицейский». Часть 1-я.

**22.00** Вести - Подробности.

**22.30** Клуб сенаторов.

**23.15** Последний сеанс. Александр Иншаков в остросюжетном фильме **«КРЫСИНЫЙ УГОЛ»**. 1992 г.

**01.05** Горячая десятка.

### НТВ

**07.00, 07.30, 09.00, 11.00, 13.00, 15.00, 23.10** Сегодня.

**07.10, 07.35** Утро на НТВ.

**07.50** **«ЧЕРНЫЙ ВОРОН»**. Многосерийный остросюжетный фильм.

**09.20** Погода на завтра.

**09.25** «Криминальная Россия». «Тюремный волк». 2-я серия.

**09.55** «Квартирный вопрос». «Спальня для молодых».

**10.30** Экологическая «Среда».

**11.20, 14.40, 17.40** Криминал.

**11.35** КГБ против ЦРУ. Детектив **«ТАСС УПОЛНОМОЧЕН ЗАЯВИТЬ...»** 8-я серия.

**13.20** «Принцип «Домино». Ток-шоу.

**15.30** **«ПО ИМЕНИ БАРОН...»** Криминальная драма.

**16.35** Боевик **«ГРЯЗНАЯ РАБОТА»** (США). 12-я серия.

# Гор Відал: Развітанне са свабодай

## *Вынятак з кнігі Гора Відала «Апошняя імперыя»*

**Згодна Карану, у аўторак Алах стварыў цемру. 11 верасня мінулага году, пасля таго як пілоты-самагубцы скіравалі самалёты на будынкі, поўныя людзей, я нават не зазірнуў у каляндар, каб даведацца пра дзень тыдня: на Манхэтэн і раку Патамак адкінуў свой страшны цень Чорны аўторак. І мяне ніколькі не здзівіла, што, нягледзячы на 7 трыльёнаў даляраў, выдаткаваных з 1950 году «на абарону», ні ФБР, ні ЦРУ і ніякая іншая разведслужба не папярэдзіла народ пра небяспеку.**

Пакуль бушаўцы актыўна рыхтаваліся да вайны (меркавалася, што паўночнакарэйскія ракеты, пазначаныя сцяжкамі, каб зручней пазнаць было, паляцяць у бок Портланду, штат Арэгон, толькі дзеля таго, каб іх збілі нашы перахопнікі), хітры Усама бен Ладэн зразумеў: адзінае, што яму трэба для ягонай святой вайны супраць няверных, – гэта ўсяго некалькі лётчыкаў, згодных ахвяраваць сваім жыццём і жыццямі пасажыраў на борце скрадзеных самалётаў. Да таго ж, як і мноства іншых народжаных у багацці, бен Ладэн не любіць марнаваць грошы без патрэбы: авіябілеты 19 угоншчыкаў былі аплачаны крэдытнай карткай.

Гор Відал – буйны амерыканскі пісьменнік і публіцыст, аўтар сусветна вядомых раманаў («1876», «Юліян», «Калкі» і інш.). Ён нарадзіўся ў 1925 годзе, належыць да амерыканскай арыстакратыі (сваяк былога віцэ-прэзідэнта Альберта Гора, зводны брат Жаклін Кенэдзі). Слава патрыярха амерыканскай літаратуры і шчырага патрыёта ЗША дазваляе Гору Відалу крытыкаваць палітыку свайго ўраду больш бязлітасна, чым на гэта наважваюцца менш знакамітыя грамадскія дзеячы Амерыкі. Кніга «Апошняя імперыя» – новы твор Відала – бліжэйшым часам выходзіць у свет.

Нядаўна я пісаў пра Перл-Харбар. Мяне часта пытаюць: хіба не падобны Чорны аўторак да нядзельнага ранку 7 снежня 1941 году? «Не, не падобны», – адказваю я. Наколькі мы ведаем, ніхто не папярэджваў пра атаку 11 верасня. Зразумела, наш урад заўсёды меў шмат сакрэтаў, заўжды, як ні парадаксальна, вядомых нашым ворагам, а мы даведваліся пра іх толькі праз гады, а то і ніколі. Прэзідэнт Рузвельт справакаваў японцаў напасці на Перл-Харбар. У сваёй кнізе «Залаты век» я апісваю шматлікія дзеянні, зробленыя ім у гэтым кірунку. Цяпер мы разумеем, чаго ён хацеў: прыйсці на дапамогу Англіі супраць саюзніка Японіі Гітлера. Гэта быў высакародны план, які закончыўся трыумфальна для ўсяго чалавецтва. Але чаго хацеў і хоча бен Ладэн?

На працягу некалькіх дзесяцігоддзяў амерыканскія СМІ займаліся беспардоннай дэманізацыяй ісламскага свету. Паколькі я шчыры амерыканец, я не мушу вам казаць, чаму гэта адбывалася: у нас наогул не прынята шукаць прычыннага таго, што адбываецца, усё зводзіцца да абвінавачвання іншых у нематываванай злосці. Адзін мысляр на амерыканскім тэлебачанні заявіў: «Мы – добрыя, а яны – дрэнныя». Сам Буш развіў гэтую бліскучую ідэю ў сваім звароце да Кангрэсу, дзе ён падзяліўся з намі сваім глыбокім веданнем ісламу і яго паслядоўнікаў: «Яны ненавідзяць усё тое, што можна ўбачыць у гэтай залі». Мільён амерыканцаў згодна заківаў галовамі ля сваіх тэлевізараў. «Іх лідэры нелегітымныя. Яны ненавідзяць нашы свабоды: свабоду веравызнання, свабоду слова, нашу свабоду выбіраць, збірацца разам і быць нязгоднымі адзін з адным». У гэты ўрачысты момант які амерыканец не заглынуў бы такую нажыўку!

І усё ж, чаму бен Ладэн і мільёны мусульманаў ненавідзяць нас?

Бен Ладэн пераканаў 4 000 саудаўцаў выправіцца ў Афганістан для ваеннай падрыхтоўкі ў рамках ягонай арганізацыі. У 1991 годзе ён пераехаў у Судан. Да 1994 году, калі Саудаўская Аравія пазбавіла яго грамадзянства, ён стаў легендарнай асобай у ісламскім свеце. Як той шэкспіраўскі Карыялан, ён мог бы сказаць саудаўскай каралеўскай сям'і: «Я праганяю вас. Ёсць і астатні свет». На жаль, «астатні свет» – гэта мы. У 12-старонкавым «абвяшчэнні вайны» бен Ладэн намаляваў сябе патэнцыйным вызваліцелем ісламскага свету ад дрэннага ўплыву сатаны ў вобразе Злучаных Штатаў. Пасля таго як Клінтан скіраваў ракету на суданскую фармацэўтычную фабрыку, бен Ладэн узарваў два амерыканскія пасольствы ў Афрыцы, прадзіравіў амерыканскі эсмінец у Йемене і гэтак далей, аж да падзеяў 11 верасня. У адказ на апошнія прэзідэнт Джордж Буш паабяцаў нам не толькі «новую», але і тайную вайну. Прычым тайную не столькі ад бен Ладэна, колькі ад нас – людзей, якія за яе плацяць і якія ў ёй удзельнічаюць. «Адміністрацыя не будзе паведамляць пра свае магчымыя планы, – заявіў Буш. – Мы знойдзем гэтых злачынцаў... і прыцягнем іх да адказнасці». Да адказнасці будуць прыцягнутыя і іншыя дэманічныя асобы, якія хаваюць бен Ладэна, каб даць ім урок, які мы самі ніяк не можам засвоіць: у гісторыі, як і ў фізіцы, кожнае дзеянне сустракае супрацьдзеянне. Як казаў Эдвард Херман, «адна з самых усталёвых рысаў амерыканскай культуры – нежаданне прызнаваць амерыканскія злачынствы». Бен Ладэн, як гэта ні дзіўна, не выглядаў на рэлігійнага фанатыка. Па адукацыі ён інжынер. Ён не любіць ЗША і ўсё тое, што яны ўвасабляюць. Калі нашыя васалы, саудаўская каралеўская сям'я, дазволілі амерыканцам акупаваць Святую зямлю прарока, бен Ладэн акрэсліў свайго ворага як «Саюз крыжакоў і сіяністаў». У гэтай фразе ён выказаў сябе вахабітам, прыхільнікам духоўнай чысціні. Ён пойдзе вайной на ЗША – «галаву гадзіны». Ён пазбавіць мусульманскія дзяржавы ўрадаў, якія падтрымлівае Захад, і пачне са сваёй радзімы – Саудаўскай Аравіі. Слова «крыжак» выдала бен Ладэна з галавой. Бен Ладэн успрымаецца многімі простымі людзьмі як сапраўдны нашчадак Саладзіна, вялікага вайскаводца, які атрымаў перамогу над англійскім каралём Рычардам Львінае Сэрца і крыжакамі.

Хоць папярэднікі Буша, як правіла, мелі больш высокі ўзровень інтэлекту, яны гэтаксама аддана служылі 1%, якому належыць краіна, пакінуўшы ўсіх астатніх на ўласны лёс. Асабліва гэтым вылучаўся Біл Клінтан. Гэты самы здольны з часоў Рузвельта прэзідэнт у пагоні за перамогай на выбарах запусціў механізм стварэння паліцэйскай дзяржавы, якім цяпер ягоны наступнік з удзячнасцю пачаў карыстацца.

Яшчэ з 1970-х гадоў, калі ФБР з арганізацыі «белых каўнерыкаў», клеркаў і юрыстаў ператварылася ў аналаг дэсантных войскаў, арганізацыю людзей, якія носяць камуфляж, адзенне ніндзя і незвычайныя лыжныя маскі, пачалі з'яўляцца злавесныя прыкметы таго, што нашы крохкія грамадзянскія свабоды апынуліся пад пагрозай.

*У вачах мноства мусульманаў хрысціянскі Захад намагаўся авалодаць землямі прававерных усё апошняе тысячагоддзе*

На пачатку 1980-х было створана элітнае падраздзяленне «270» для вызвалення закладнікаў. Як часцяком здараецца ў падобных структурах, гэтая група спецыялізавалася не столькі ў вызваленнях ці выратаваннях, колькі ў нападах на ўсіх, хто ім перашкаджаў. Напрыклад, евангелісцкая секта, якая мірна жыла ў Уэйка, штат Тэхас, пакуль ФБР не ўвяло на іхную тэрыторыю танкі і не забіла 82 чалавекі, у тым ліку 25 дзяцей. Гэта адбылося ў 1993 годзе.

Пасля 11 верасня спецпадраздзяленні ФБР можна скарыстоўваць супраць падазроных арабаў, якія пражываюць у ЗША, або ўсіх западозраных у тэрарызме (які не мае юрыдычнага акрэслення). Пасля тэракту ў Аклахома-Сіці Клінтан назваў тых, хто не падтрымлівае яго драконаўскіх захадаў, памагатымі злачынцаў, якія жадаюць зрабіць Амерыку «прыстанішчам тэрарыстаў». Калі гэтак сказаць мог спакойны Клінтан, дык чаго чакаць ад узрушанага падзеямі 11 верасня Буша?

Дарэчы, тым, каго шакавала «абвяшчэнне вайны» бен Ладэну і тым часткам ісламскага свету, якія яго падтрымліваюць, варта тэрмінова задумацца. Паколькі краіна можа знаходзіцца ў стане вайны толькі з другой краінай, дык чаму наш красамоўны прэзідэнт сказаў гэтую фразу? Справа ў тым, што большыня страхавых кампаніяў не пакрывае выдаткаў ад «ваенных дзеянняў». Хоць атачэнне Буша нічога не ведае пра вайну і яшчэ менш – пра Канстытуцыю ЗША, яны выдатна знаюцца на зборы ахвяраванняў. За такую падтрымку страхавая кампанія *Hartford Life* будзе цяпер фінансаваць Рэспубліканскую партыю шмат гадоў. Але газета *Washington Post* усё ж адзначыла, што, паводле закону, «ваенныя дзеянні» можа весці толькі дзяржава, а не група радыкалаў. Гэта азначае, што мы, народ Злучаных Штатаў, атрымаем рэдкі прывілей, недаступны ранейшым пакаленням, – аплаціць са сваіх кішэняў страты, якія пацярпелі страхавыя кампаніі.

Нашы склератычныя СМІ ўжо не ўзгадваюць, як моцна мы падтрымлівалі Садама Хусейна ў часе ірака-іранскай вайны. Адпаведна, ён лагічна разважыў, што мы не будзем супраць, калі ён захопіць Кувейт. Тут наш вернападданы імгненна стаў д'яблам у людскім аблічы.

Наша імперская пагарда да ніжэйшых за нас не засталася непрыкметнаю для новага пакалення адукаваных арабаў і іхняга лідэра бен Ладэна, чый зорны час настаў у 2001 годзе, калі новы амерыканскі прэзідэнт заняў сваю пасаду пры сумнеўных абставінах.

Фізічныя разбурэнні ад бен Ладэна ў Чорны аўторак – нішто ў параўнанні з ударам па нашай свабодзе. Нават лаяльная ураду *Washington Post* занепакоілася: «Міністэрства юстыцыі злоўжывае сваім правам арыштоўваць людзей. Сотні асобаў знаходзяцца ў турмах за нязначныя парушэнні. Юрысты не могуць узгадаць перыяд, калі б гэтулькі людзей затрымлівалі без выстаўлення абвінавачванняў».

Вось словы, што прагучалі яшчэ да бен Ладэна: «Абмежаванні асабістых свабод, свабоды слова, уключна са свабодай прэсы, і свабоды сходаў, праслухоўванне тэлефонных размоваў і чытанне прыватнай перапіскі, вобшукі без ордэра і канфіскацыя маёмасці дазваляюцца ў абход існуючых законаў». Гэта цытата з прамовы Гітлера, якая заклікала да «абароны народу і дзяржавы» і з якой ён выступіў у 1933 годзе пасля падпалу рэйхстага, арганізаванага самімі нацыстамі.

Толькі адзін член Кангрэсу, Барбара Лі з Каліфорніі, прагаласавала супраць таго, каб даць прэзідэнту дадатковыя правы. Адначасна, згодна з апытаннем, якое праводзілі газета *New York Times* і тэлекампанія *CBS*, толькі 6% амерыканцаў выступаюць супраць ваенных дзеянняў, а большая частка апытаных выступае за вайну, «нават калі ў ходзе аперацыі загінуць тысячы нявінных». Адпаведна, рэйтынг Буша ўзрос да нябёсаў.

У часе ваенных дзеянняў прэзідэнт становіцца татэмам, сімвалам, накшталт нацыянальнага сцягу. Пасля таго як рэйтынг Кенэдзі дасягнуў сваёй найвышэйшай адзнакі пасля няўдачы ў Затоцы Свіннях, ён зазначыў у сваёй тыповай манеры: «здаецца, чым большае глупства ты робіш у якасці прэзідэнта, тым больш цябе любяць».

**The Guardian**

# Камандас у ролі начнога вартаўніка

*Шэварднадзе абяцае выкарыстоўваць падрыхтаваны амерыканцамі спецназ не для вайны, а для сваёй аховы*

Як вядома, у канцы красавіка ў Грузію ў рамках праграмы «Навучанне і аснашчэнне», на рэалізацыю якое Пентагон выдзеліў 64 млн. даляраў, пачалі прыбываць ваенныя спецыялісты з ЗША. Мінулае нядзелі яшчэ 70 амерыканскіх «зялёных берэтаў» былі перадыслакаваны з Нямеччыны на базу пад Тбілісі. Было вырашана і пытанне аб наданні грузінскаму войску турэцкага гранту ў памеры 2,9 млн. даляраў. Паралельна ў Баржомі прайшла нарада кіраўнікоў спецслужбаў дзяржаваў СНД, якія абмяркоўвалі пытанні супольнай барацьбы з тэрарызмам на Каўказе. І, дарэчы, прэзідэнт Эдуард Шэварднадзе станоўча ацаніў пазіцыю дырэктара ФСБ РФ Мікалая Патрушава, які выславіўся ў тым сэнсе, што «ўсе праблемныя пытанні павінны вырашацца супольна, з улікам законных інтарэсаў як Расіі, так і Грузіі». Усё гэта сведчыць, што ў Тбілісі ўсур'ёз пачалі дбаць пра ўмацаванне нацыянальнай бяспекі. Пры гэтым ужо не выклікае ніякіх сумненняў, што вядучую ролю ў умацаванні сілавога складніка грузінскай дзяржаўнасці будуць граць ЗША і *NATO*.

Паводле словаў кіраўніка амерыканскай ваеннай місіі Роберта Уолтмейера, «гэтая праграма рэалізуе рашэнне прэзідэнта Джорджа Буша, прынятае пасля просьбы ўраду Грузіі аб дапамозе ў барацьбе з тэрарыстычнымі фармаваннямі, якія знаходзяцца ў Панкіскай цясніне, і накіравана на павышэнне магчымасцяў падраздзяленняў грузінскіх сілавых структур у барацьбе з тэрарыстамі і на стабілізацыю сітуацыі не толькі ў Панкісі, але і на Каўказе ў цэлым». Адказваючы на пытанне «НГ» пра ўзровень аснашчэння падраздзяленняў спецназу, стану навучальна-матэрыяльнай базы і палігонаў грузінскай арміі, падпалкоўнік Уолтмейер адзначыў, што яна «нізкая, і мы прыбылі дзеля таго, каб вырашыць гэтую праблему», і падкрэсліў вялікае жаданне і гатоўнасць навучэнцаў выканаць праграму. Паводле ягоных словаў, многія будучыя інструктары з ліку грузінскіх вайскоўцаў ужо прайшлі падрыхтоўку ў навучальных установах ЗША і Еўропы, ведаюць мову. Не выпадкова навучанне разлічана на падрыхтоўку спецыялістаў, ужо адаптаваных да амерыканскіх стандартаў. Акрамя парашутнай, снайперскай і горнай падрыхтоўкі, яны пройдуць спецкурсы разведчыкаў і інш.

Падпалкоўнік Уолтмейер ухіліўся ад ацэнкі палітычных наступстваў выканання праграмы. Лічыцца, што спецназ будзе накіраваны на ахову рэзідэнцыі кіраўніка дзяржавы і іншых асабліва важных аб'ектаў. Але, лічаць эксперты, калі пастаўленыя мэты і задачы будуць рэалізаваны, гэтыя часці ператворацца ў занадта сур'ёзную сілу, каб выкарыстоўваць іх лакальна. Такая боязь настолькі распаўсюджана, што прэзідэнт Шэварднадзе мусіць рэгулярна яе абвяргаць. Днямі ён наўпрост заявіў, што «ваяваць у Абхазіі я не збіраюся». Але трэба ўлічыць, у якім кантэксце прагучалі гэтыя словы. Кіраўніцтва грузінскіх уцекачоў зноў заявіла пра намер вярнуць 300 тысяч чалавек у Гальскі раён Абхазіі і звярнулася ў ААН з патрабаваннем прызнаць факт этнічнае чысткі, праведзенай на пачатку 90-х гадоў абхазскім кіраўніцтвам. Прагучала і пагроза актывізаваць партызанскія дзеянні.

Зразумела, што ў гэтых умовах чакаць колькі-небудзь ваяўнічых заяваў ад дасведчанага Шэварднадзе не даводзіцца.

**Ng.ru**

ВІЗІТЫ

## *Азербайджан і Балгарыя чакаюць Яна Паўла II*

**Папа Рымскі Ян Павел II наносіць візіты ў Азербайджан і Балгарыю.**



Гэта 96-я замежная паездка рымскага першасвятара. Колькасць краінаў, дзе пабываў рымскі папа, дасягнула цяпер 132. Агульная працягласць маршрутаў прадстаўніка рымска-каталіцкай царквы за час ягонага пантыфікату ўжо ў 30 разоў перавысіла акружнасць зямной кулі і роўная цяпер трайной адлегласці ад Зямлі да Месяца. Цяперашняя паездка прадугледжвае тры паветраныя пералёты агулам на 6,5 тысяч кіламетраў, два верталётныя падарожжы і адно на аўтамабілі.

Гэты візіт папы прыцягвае ў свеце асаблівую ўвагу. Азербайджан – 24-я мусульманская краіна, якую наведвае Ян Павел II, і першая з тых, дзе пануе іслам шыіцкага кшталту. Апроч таго, Азербайджан стане 8-й краінай з ліку былых савецкіх рэспублік, якія прымаюць рымскага пантыфіка. У гэтай краіне ўсяго 130 каталікоў, два каталіцкія святары і пакуль ніводнага каталіцкага храма. З гэтай прычыны ўпершыню за 20 гадоў ачольнік рымска-каталіцкай царквы спыніцца тут не ў кляштары, бо іх у Азербайджане проста няма, а ў невялічкім гатэлі, дзе будзе займаць сціплы двухпакаёвы нумар.

Не меншую цікавасць мае балгарскі этап паездкі Яна Паўла II. Асаблівую вастрыню яму надае тое, што Балгарыю ў мінулым звязвалі з замахам на жыццё Папы Рымскага ў траўні 1981 году. Тады лічылася, што кілерам-туркам маніпулявалі балгарскія сакрэтныя службы, але потым была даказаная памылковасць такога меркавання. Апытанні, якія праводзіліся ў Балгарыі, засведчылі, што 52 працэнты балгар з удзячнасцю ўспрымаюць візіт такой аўтарытэтнай у свеце асобы, як Ян Павел II.

**Пётр КЛІМКОВІЧ**

## Расізму баіцца ўся Еўропа

***У Берліне завершыўся кангрэс прадстаўнікоў партыяў «зялёных» еўрапейскіх краін.***

У прынятай па выніках гэтага форуму дэкларацыі еўрапейскія «зялёныя» заклікалі ўсе краіны кантыненту аб'яднацца супраць любых формаў расізму, ксенафобіі і антысемітызму. Паварот Еўропы ў бок правых і поспех лідэра ультраправых на прэзідэнцкіх выбарах у Францыі засведчылі, што праблема расізму і антысемітызму робіцца ўсё больш актуальнаю. Прыкладам могуць служыць і шматлікія акцыі, скіраваныя супраць габрэяў. Днямі каля дзвярэй адзінай сінагогі ў Квебеку раніцой прагрымеў выбух. На шчасце, ніхто не пацярпеў, але выбух пашкодзіў дзверы і выбіў шыбы. За бягучы год гэта далёка не першы выпадак нападаў на сінагогі ў Канадзе. Не так даўно была падпалена цэнтральная сінагога Таронта – пашкоджанні атрымалі 2 тысячы унікальных рэлігійных тэкстаў, некаторыя з іх датуюцца 1860 годам.

У Вялікабрытаніі цяпер больш за палову насельніцтва краіны (51%) лічаць, што яны жывуць у расісцкім грамадстве. Гэтае думкі трымаюцца 52% белых і 53% чарнаскурых жыхароў Брытаніі, а таксама 41% брытанцаў азіяцкага паходжання. Такія звесткі былі атрыманы ў выніку апытання грамадскай думкі, праведзенага на замову *BBC*.

Мае актуальнасць гэтая праблема і для Расіі. У канцы мінулага тыдня група замежных паслоў, акрэдытаваных у Маскве, заявіла калектыўны пратэст кіраўніку расійскага МЗС з прычыны хвалі расізму, што заліла краіну. Свае патрабаванні дыпламаты выклалі на чатырох старонках. Іваноў запэўніў паслоў у тым, што расійскія ўлады не пакінуць без увагі ніводнага выпадку экстрэмізму ў дачыненні да іншаземцаў. Між тым шмат хто ставіць пад сумнеў эфектыўнасць гэтай сустрэчы, нягледзячы на тое, што прадстаўнікі Еўрапейскага Саюзу, Афрыкі, Азіі і Лацінскай Амерыкі засталіся задаволеныя яе вынікамі.

**Utro. ru**

## Карысны занятак амерыканскіх зэкаў

*Кампанія* Dell Computer, *колішні лідэр у вытворчасці персанальных камп'ютэраў, саступіла націску сваіх акцыянераў, якія клапоцяцца аб захаванні навакольнага асяроддзя, і падрыхтавала праграму па утылізацыі старых ПК для спажыўцоў.*




*Dell* ужо збірае непатрэбныя машыны ў Еўропе, дзе закон абавязвае кампанію-гандляра утылізаваць старыя камп'ютэры, а таксама прымае старыя камп'ютэры ад карпаратыўных кліентаў у ЗША. Цяпер надышла чарга амерыканскіх спажыўцоў. Раней амерыканцы маглі пазбыцца старога «жалеза» без шкоды для прыроды толькі двума спосабамі – ці прадаць, ці падараваць каму-небудзь стары камп'ютэр.

У Амерыцы камп'ютэр «жыве» ў сярэднім 3 гады, а потым яго звычайна выкідаюць на сметнік, што, на думку амерыканцаў, незэкалагічна. Найбольшую шкоду наваколлю наносяць маніторы, якія ўтрымліваюць артуць і свінец, не кажучы ўжо пра пластыкавыя кампаненты, пакрытыя таксічнымі рэчывамі.

Спосаб пазбаўляцца ад камп'ютэрнага ламачча кампанія *Dell* знайшла просты і лёгкі. Яна заключыла дамову з дзяржаўнай кампаніяй *Unicor*, інакш называнай «Федэральная турэмная прамысловасць», пра тое, што утылізацыяй старых камп'ютэраў будуць займацца зняволеныя амерыканскіх турмаў.

*Dell* стала трэцяй кампаніяй пасля *IBM*, *HP* і *Sony*, якая прыняла праграму утылізацыі старых камп'ютэраў. Звычайна за утылізацыю свайго камп'ютэра заходні кліент павінен заплаціць сімвалічную суму, якая ўлічваецца пры куплі ім новай машыны.

**Міхаіл ХАДЫКА**

НАТАТКІ

### Опіум мяняюць на рыс і кукурузу

Улады М'янмы паведамілі, што ў найбліжэйшы час будуць узмоцнены захады па барацьбе з вытворчасцю опіуму ў краіне. Адпаведна з новай праграмай сяляне змогуць абмяняць насенне опіўнага маку на насенне іншых культур, такіх, як рыс, пшаніца або кукуруза. На папярэднім этапе праграмы сяляне ўжо здалі 141 тону насення опіўнага маку. М'янма – адзін з найбуйнейшых пастаўшчыкоў опіуму на сусветны рынак. Гэты факт прывёў да таго, што, напрыклад, ЗША адмовіліся даваць дзяржаве фактычна любую дапамогу, пакуль улады М'янмы не пачнуць актыўную барацьбу з вырабам наркотыкаў.

### «Сябры» і «ворагі» амерыканцаў

41% амерыканцаў па-ранейшаму лічаць Расію «недружалюбнай краінай». Пра гэта сведчаць вынікі апытання грамадскай думкі, праведзенага кампаніяй *Harris Poll*. Але 17% усё ж адносяць Расію да сяброў. Што да астатніх дзяржаваў, то 58% амерыканцаў залічаюць да «недружалюбных дзяржаваў» Кітай, 41% – Індыю, 39% апытаных з асцярогаю ставяцца да Японіі, а 38% – да Германіі, 35% – да Аргенціны, 13% – да Вялікабрытаніі. Праўда, Брытанія лідзіруе ў рэйтынгу «дружалюбных краін» – за яе аддалі свой голас 80% рэспандэнтаў.

### Чэшскія камуністы і эротыка

Камуністычная партыя Чэхіі і Маравіі (КПЧМ) залучыла ў свае шэрагі выдаўца эратычнага часопіса *NEI* Рыхарда Кнота. У перадвыбарнай кампаніі левых пасля гэтага з'явіліся нехарактэрныя раней для камуністаў прыёмы. Па ўсёй паўднёвай Чэхіі з'явіліся плакаты з напаўаголенай дзеўчынай, якая спрабуе залезці на чарэшневае дрэва (сімвал чэшскіх камуністаў). Унізе плаката размешчаны лозунг: «Плады палітыкі КПЧМ – для ўсіх чэшскіх грамадзян».

### Палююць на лялькі Барбі

Падраздзяленні іранскай паліцыі прачэсваюць усе цацачныя крамы ў пошуках знакамітых лялек Барбі. Канфіскацыя лялек праходзіць у рамках барацьбы з антыісламскай прапагандай. Звычайна Барбі прадаюцца адзетымі ў купальныя строі і кароткія маечкі – і гэта ў краіне, дзе ўсе жанчыны павінны ў публічных месцах закрываць твар.

НАТАТКІ

### Беларуская мода

22 траўня ў Віцебску пачаўся міжнародны конкурс мадэльераў-дызайнераў «Белая амфара-2002». Адкрыўся конкурс паказам калекцый беларускіх мадэльераў. Конкурс будзе доўжыцца 5 дзён. Віцябляне і гасцей гораду чакаюць конкурсныя паказы мадэльераў-дызайнераў, манекеншчыц беларускіх агенцтваў мадэляў, майстар-класы трэнераў міжнароднага ўзроўню. У рамках конкурсу, які праходзіць у Віцебскім культурна-дзелавым цэнтры «КІМ» з 22 па 26 траўня, будзе працаваць выстава-продаж прадукцыі канцэрну «Беллегпрам».

### Гімн Полацку

У фінале конкурсу на гімн гэтага старажытнага беларускага гораду былі прадстаўленыя 23 песні. Журы адзначыла дзве з іх. Адна – «Горад над Дзвіной» кампазітара Ізмаіла Капланава на вершы Надзеі Салодкай, якая, на думку журы, усё ж занадта лірычная для таго, каб стаць гімнам. Другі фаварыт – песня, вершы і музыку да якой напісала выкладчыца музыкі наваполацкай сярэдняй школы № 2 Тамара Гамановіч. Аднак тэкст гэтага твору меў патрэбу ў дапрацоўцы, і полацкі паэт Алесь Аркуш перапісаў яго нанава. Атрымаўся гімн.

### Творчасць для ўсіх

1–3 чэрвеня ў Мінску пройдзе рэспубліканскі фестываль творчасці дзяцей з асаблівасцямі ў развіцці «Запалі сваю зорку», прымеркаваны да Міжнароднага дня абароны дзяцей. 1–2 чэрвеня ў спорткомплексе «Стайкі» пройдзе выстава творчых працаў дзяцей і падлеткаў з абмежаванымі магчымасцямі, а 3 чэрвеня ў Палацы Рэспублікі адбудзецца дабрачынны канцэрт для дзяцей-інвалідаў. У ім возьмуць удзел папулярныя артысты беларускай эстрады. Як сказала вядомая беларуская спявачка Іна Афанасьева, «людзі, якія дасягнулі ў жыцці пэўных вышынь, могуць дазволіць сабе быць высакароднымі».

МАСТАЦТВА

## Галерэя пачаткоўцаў і прафесіяналаў

*21 траўня ў Палацы Рэспублікі ў Мінску адкрылася галерэя Беларускага дзяржаўнага універсітэту культуры.*

Гэта першая ў краіне галерэя, у дзейнасці якой будзе адлюстроўвацца творчасць студэнтаў навучальных установаў мастацкага профілю.

Як паведаміў дырэктар галерэі, выкладчык універсітэту культуры і прэзідэнт Міжнароднай гільдыі жывапісцаў Фёдар Ястраб, у гэтай найбуйнейшай у рэспубліцы галерэі ёсць усе магчымасці для таго, каб працаваць на годным еўрапейскім узроўні. Чатыры камерныя залі галерэі агульнай плошчай каля 600 квадратных метраў змогуць адначасова ўмяшчаць чатыры персанальныя выставы. У задачы галерэі ўваходзіць падтрымка таленавітай моладзі, прапаганда беларускага мастацтва і арганізацыя сумесных міжнародных праектаў з удзелам універсітэцкіх галерэй свету.

У залях новай галерэі будуць выстаўляцца пачаткоўцы і прафесійныя мастакі, якія прадстаўляюць як акадэмічнае, так і эксперыментальнае мастацтва. Некаторыя выставы будуць арганізоўвацца ў якасці практыкі самі студэнты.

**Лавінія АРЭШКА**

ПРЭМ'ЕРА

## «Перабрэхі» ў Купалаўскім

У рэпертуары Купалаўскага тэатру з'явілася яшчэ адна пастаноўка. 22 траўня на Вялікай сцэне тэатру адбылася прэм'ера спектакля «К'еджаўскія перабрэхі». Пастаўлены ён паводле камедыі вядомага італьянскага драматурга Карла Гальдоні, перакладзенай на беларускую мову Рыгорам Барадуліным.

Гэта ўжо другая п'еса італьянскага драматурга, якая будзе пастаўленая ў Купалаўскім тэатры. У 1955 годзе тут ішоў спектакль «Хлус».

Рэжысёрам «К'еджаўскіх перабрэхаў» – Уладзімір Шчэрбань, кампазітарам – Уладзімір Кур'ян, сярод акцёраў – заслужаны артыст Беларусі Віктар Манаеў. Дзеянне ў новым спектаклі «купалаўцаў» адбываецца ў невялічкім гарадку К'еджы, які месціцца ў трыццаці кіламетрах ад Венецыі. Тут жывуць рыбакі, якія ўвесь час сварацца міжсобку літаральна на пустым месцы. Таму ў спектаклі – процьма народных прымавак, прыказак ды прыпевак. Заміруцы жыхароў К'еджы прыязджае Памочнік суддзі з Венецыі, якога грае Віктар Манаеў...

**Кірэй МАНУЙЛА**

# Без цяплічных умоваў

**Кірыла ПАЗЬНЯК**

***Кіраўніцтва холдынгу культурніцкіх выданняў, якое афіцыйна называецца рэдакцыйна-выдавецкай установай «Літаратура і мастацтва», агучыла планы рэформаў у часопісах «Нёман», «Полымя», «Маладосць», «Крыніца», «Всемирная литература» і ў тыднёвіку «ЛіМ». Пачалі дзейнічаць і новапрызначаныя рэдактары гэтых выданняў.***

Бадай, у захадах кіраўніцтва медыяхолдынгу ёсць адна бясспрэчна слушная рэч – гэта курс, узяты на значнае скарачэнне штатаў у ім. Яны сапраўды ў нашых літаратурна-мастацкіх выданнях, зрэшты, як і ў іншых дзяржаўных СМІ, празмерна раздутыя. Міністр інфармацыі Міхаіл Падгайны казаў пра гэта яшчэ тады, як толькі-толькі была агучана ідэя стварэння холдынгу з літаратурна-мастацкіх выданняў.

План скарачэнняў у часопісах такі: тут будуць паўся рэдакцыя часопісу «Крыніца», акрамя фатографа і прыбіральшчыцы, пакінула свае працоўныя месцы на знак пратэсту супраць неабгрунтаванага звальнення галоўных рэдактараў выданняў, што ўвайшлі ў холдынг, і замену іх на новых.

Хто з «ЛіМу» застанецца працаваць далей, па ўсім відаць, будзе вырашаць не галоўны рэдактар Алесь Пісьмянкоў, а тройка холдынгавых кіраўнікоў – Касцян, Бондар, Новікаў. У «ЛіМе» кажуць, што адбор 21 шчасліўчыка з 30 кандыдатаў будзе весціся ў тым ры і наклады літчасопісаў. У рэшце рэшт усё можа сысці на тое, што асобныя выданні дзеля эканоміі проста зачыняць ці зробяць якімі-небудзь укладкамі на ўзор «Чырвонай змены» і «Звязды». Раіса Баравікова, што стала на чале «Маладосці», праблему эканоміі збіраецца вырашаць такім чынам: узяць ды з'яднаць у адзін нумар ажно паўтузіна.

Наўрад ці можна павялічыць чытацкую аўдыторыю толькі за кошт ракіроўкі аўтараў гэтых выданняў? Гэтак Ніна Чайка з наступнага нумару «Нёмана» прыбратаму, што Мятліцкі, Дашкевіч, Чайка ды Пісьмянкоў прыслухаюцца да Скобелева, а проста Быкаў з Барадуліным ды мала яшчэ хто самі сюды свае аповесці ды вершы не панясуць. А тыя, што ўжо там ляжаць, забяруць. Гэтак робяць, байкатуючы холдынгавыя выданні, зараз многія літаратары, прычым самыя бестселерныя на сёння ў Беларусі.

Праўда, незалежныя «ARCHE» ды «Спадчына» не гумовыя. Таму ў пісьменніцкіх колах і нарадзілася ідэя стварэння альтэрнатывы закасцянелым часопісам. Былы галоўны рэдактар «Полымя» Сяргей Законнікаў абвясціў пра ідэю стварэння часопісу пад назвай «Будзьма», а ягоны таксама ўжо былы намеснік Барыс Пятровіч – часопісу «Дзеяслоў». Падрабязнасцяў ні адзін, ні другі не рас-






**Галоўны рэдактар «Інфармацыйнага весніка Адміністрацыі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь» Эдуард Скобелеў выказаўся за арганізацыю літаратурнага астракізму народнага пісьменніка Васіля Быкава, народных паэтаў Рыгора Барадуліна і Ніла Гілевіча, былога рэдактара часопісу «Полымя» Сяргея Законнікава з тае прычыны, што яны, на думку Э.Скобелева, «палітычна адсталыя фігуры». Гэтак ён выказаўся на прэс-канферэнцыі, якую ладзілі ў Грамадскім прэс-цэнтры кіраўнікі холдынгу літаратурна-мастацкіх выданняў. Сам як пісьменнік Эдуард Скобелеў піша на рускай мове, і таму такая прапанова ўплывовага службоўца з афіцыйнага выдання прэзідэнта рэспублікі мае палітычную афарбоўку. Апрача таго, такім чынам ён, відаць, хоча прыбраць сваіх недасяжных іншымі сродкамі калег-канкурэнтаў.**

кінутыя па дзесятку супрацоўнікаў, з іх 6 творчых і 4 тэхнічных. Для выданняў, якія выходзяць не часта – у нашым выпадку раз на месяц – і дзе амаль увесь змест складаецца з твораў пазаштатных аўтараў, а не супрацоўнікаў рэдакцыі, гэтая колькасць абсалютна аптымальная. Што тычыцца газеты «Літаратура і мастацтва», то да яе падыход асобны. У «ЛіМе» ўжо былі звольненыя сямёра супрацоўнікаў пенсійнага веку, а цяпер з тых 30, што працуюць зараз, застанецца 21 чалавек. Хто канкрэтна – невядома, бо ўсё будзе вырашацца пасля 1 ліпеня. З гэтага дня ўсіх пазвальняюць, а з тымі, каго вырашаць пакінуць, заключаць новыя кантракты. Па нашай інфармацыі, на 21 месца прэтэндуюць усе 30 цяперашніх «лімаўцаў», то бок ніхто загадзя па прыкладзе «крынічанцаў» звальняцца не збіраецца. Нагадаем, што ліку і праз гутарку кожнага супрацоўніка газеты з гэтай тройкай цалкам ці з кімсьці з яе ў кабінеце галоўнага рэдактара. Большасць лімаўцаў мяркуе, што пасля гэтага ім давядзецца шукаць іншае месца працы. Хоць у прыватных гаворках многія лімаўцы прызнаюць, што скарачэнні для больш плённай працы газеты трэба было правесці даўно. Відаць, прызнаюць слушнасць кадравых скарачэнняў і ў іншых выданнях, што патрапілі ў холдынг, бо адпаведнай крытыкі ў бок Касцяна і кампаніі чутно не было.

Але ўсё адно скарачэнні вялікай эканоміі не прынясуць. Змяншэння стратнасці літаратурна-мастацкіх выданняў толькі гэтым не дасягнуць, а вось чагосьці іншага і канкрэтнага кіраўніцтва холдынгу дагэтуль не прапанавала. Апрача агульных словаў пра мэту падымаць прэстыж і папулярнасць беларускай літаратула вершы Алеся Разанава, затое там з'явіцца зацяты «саборавец» Росцікаў. Пакуль вынік творчае палітыкі Чайкі такі: многія «нёманцы» думаюць пра звальненне. Тым часам пісьменнік Эдуард Скобелеў ва ўнісон з Чайкаю заклікаў галоўных рэдактараў часопісаў у рэдакцыйна-выдавецкай установе «Літаратура і мастацтва» ігнараваць творы Быкава, Барадуліна, Гілевіча, Законнікава...

Касцян, Новікаў ды Бондар не хаваюць, што літаратурна-мастацкія выданні мусяць калі не быць прыладнікамі, дык трымацца дзяржаўнай палітыкі і ідэалогіі. Гэта, маўляў, перадумова прыстойнага фінансавання культурніцкіх часопісаў і газет. Натуральна, што Быкаў з Барадуліным будуць глядзецца тут недарэчна. Таму, хутчэй за ўсё, на старонках ні «Крыніцы», ні «Полымя», ні «Нёмана», ні «ЛіМу» іхніх твораў не будзе. І не толькі павядаюць, таму можна зрабіць выснову, што абедзве ідэі знаходзяцца на ўзроўні размоваў. Гэта, прынамсі, пакуль што ўсяго толькі думкі ўголас у адказ на тое, што чыніцца ў холдынгу «ЛіМ».

Калі праекты «Будзьма» і «Дзеяслоў» стануць явай, гэта будзе вялікім спрыяннем беларускай літаратуры, бо публічны асяродак літаратурнага працэсу – якраз літаратурна-мастацкія выданні. Інтэлігенцыя, у прынцыпе, сама вінаватая ў тым, што здарылася. Яна сама змясціла літаратуру ў цяплічныя ўмовы, калі без дзяржаўнай падтрымкі, за рэдкім выключэннем, яна нікуды. Таму вельмі важна, што з'яўляецца недзяржаўныя літаратурныя часопісы: літаратура павінна развівацца не толькі ў залежнасці ад таго, як на яе глядзяць улады. Тое добра было за Адраджэннем, але ўлада мае ўласцівасць мяняцца.

# Беларускую мову чакае лёс лаціны

Анатоль ГАТОЎЧЫЦ

***0,76 працэнта гомельскіх першакласнікаў вучацца жыць і думаць па-беларуску. Гэта ў 100 разоў меней, чымсьці сем гадоў таму.***

Летась у жніўні Міністэрства адукацыі распрацавала праграму дадатковых захадаў дзеля пашырэння сферы выкарыстання беларускай мовы. Нягледзячы на гэта, колькасць дзяцей, што навучаюцца па-беларуску, у школах Гомельшчыны працягвае скарачацца.




Школу з беларускім навучаннем сёлета ў вобласці сканчаюць на 3 тысячы дзяцей меней, чымсьці ў папярэднім навучальным годзе, калі міністэрскай праграмы пашырэння ўжытку беларускай мовы ў сістэме адукацыі яшчэ не было. Упраўленне адукацыі Гомельскага аблвыканкаму наогул не ставіць мэты павелічэння колькасці школьнікаў, што набываюць веды на роднай мове.

– Мы такую задачу, – кажа намесніца начальніка ўпраўлення Лідзія Кацегава, – не ставім на той падставе, што нашу працу мы будуем, зыходзячы з патрэб бацькоў, сям'і. Калі бацькі запатрабуюць ад нас пашырыць колькасць класаў і дзяцей з беларускім навучаннем, тады калі ласка.

Як вынікала са словаў намесніцы, пашырэнне ўвагі да беларускай мовы ўпраўленне звязвае з абсталяваннем у школах музеяў, правядзеннем алімпіядаў, напісаннем па-беларуску візуальнай інфармацыі.

Зрэшты, падобнага погляду прытрымліваецца і большасць раённых аддзелаў адукацыі. Прынамсі, гэта зафіксавана ў іхніх адпаведных праграмах. І толькі асобныя запланавалі паступовы пераход на беларускую мову навучання: напрыклад, Мазырскі гарадскі аддзел адукацыі – у адной з шаснаццаці сярэдніх школ.

Наогул за агульнай статыстыкай асобныя чыноўнікі імкнуцца схаваць сапраўднае становішча з навучаннем школьнікаў на роднай мове. У прыватнасці, у афіцыйных паперах фігуруюць такія лічбы: у вобласці 387 школак, альбо 55 працэнтаў, маюць беларускую мову навучання. Чым не паказчык! Аднак пры гэтым асабліва не афішуецца, што ўсе згаданыя школы – сельскія, малалікія. Насамрэч у рэгіёне з 227 тысяч школьнікаў толькі 44,9 тысячы, альбо меней за пятую частку, навучаюцца па-беларуску. У буйнейшых гарадах, такіх, як Мазыр, Рэчыца, Жлобін, да гэтага часу няма не толькі школаў, але нават і асобных класаў з навучаннем усіх прадметаў на роднай мове. Даходзіла да парадоксаў. Мазыранка Алена Барабанава летась звярталася ў інстанцыі з пісьмамі, бо не магла аддаць сваю дачку ў беларускі падрыхтоўчы клас.

Таксама летась, калі ўжо распачаўся навучальны год, быў зліквідаваны філіял беларускамоўнай гімназіі ў Светлагорску.

Нават у абласным цэнтры засталася толькі адна гімназія на 600 чалавек з роднай мовай навучання. Яе дырэктарка Таццяна Цыганок перад кожным навучальным годам вытрымлівае сур'ёзны ціск, бо рознага кшталту адміністратары спрабуюць і тут перавесці навучанне першакласнікаў на расійскую мову. А тых першакласнікаў у гімназіі ўсяго 40. Гэтулькі будзе і ў верасні, што складзе, як і зараз, меней за адзін адсотак ад агульнай колькасці гарадскіх першакласнікаў. Уявіце сабе: на пачатку навучальнага году за парты сядаюць звыш 5 тысяч першакласнікаў – і толькі 40 з іх набываюць веды на беларускай мове!

Для параўнання. У 1994 годзе ў школах абласнога цэнтру на роднай мове навучалася 76 працэнтаў тых, хто прыходзіў у першы клас.

Дарэчы, акурат у той год, сцвярджаючы ў Гомелі мясцовую «вертыкаль», новаабраны прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка заявіў: ёсць у свеце дзве вялікія мовы – руская і англійская, а на беларускай мове нельга нічога выразіць значнага. Літаральна так і сказаў, чым прывёў у шок многіх мясцовых дэпутатаў.

Далей быў ганебны рэферэндум.

І вось вынік: 0,76 працэнта гомельскіх першакласнікаў вучацца жыць і думаць па-беларуску.

# Пісьменніцкі раскол пераносіцца?

**Планаваны на сярэдзіну траўня 14 пазачарговы з'езд Саюзу беларускіх пісьменнікаў не адбыўся.**

Верагодна, з'езду ўвогуле адбыцца не суджана: адзін з галоўных ініцыятараў форуму першы намеснік старшыні Саюзу беларускіх пісьменнікаў Віктар Праўдзін, які збіраўся выступаць з асноўным дакладам, 16 траўня падаў заяву аб адстаўцы.

Сам факт адстаўкі Віктара Праўдзіна з пасады першага намесніка старшыні СБП «па ўласным жаданні», нават без узгаднення з Радай СБП, сведчыць пра фіяска, якое пацярпела прапрэзідэнцкае крыло Саюзу з 60 чалавек.

У траўні 2001 году на нешчаслівым 13 з'ездзе прапрэзідэнцкае крыло ўжо спрабавала змяніць кіраўніцтва Саюзу. Тады на пасаду кіраўніка СБП вылучаўся Мікола Мятліцкі, які са старэннем «рэдакцыйна-выдавецкай установы «Літаратура і мастацтва» ў сярэдзіне красавіка заняў цёплае месцейка ў крэсле галоўнага рэдактара часопісу «Полымя», замяніўшы Сяргея Законнікава. Аднак год таму М.Мятліцкі не знайшоў падтрымкі ў пісьменніцкіх колах. 16 сакавіка гэтага году лаяльныя да ўлады пісьменнікі на чале з Віктарам Праўдзіным, Уладзіславам Мачульскім, Міколам Мятліцкім ізноў паднялі пытанне пра замену старшыні СБП Вольгі Іпатавай. На паседжанні Рады 16 сакавіка В.Праўдзін абвінавāціў старшыню Саюзу ў «якшанні з апазіцыяй» і ўзяўся рыхтаваць асноўны выкрывальны даклад на з'езд. Пісьменнікі не выключалі магчымага расколу Саюзу на два лагеры – лаяльны і нелаяльны да ўладаў.

Аднак, паездзіўшы па правінцыі, завадатары «кадравага з'езду» зразумелі, відаць, марнасць сваіх намаганняў. На старшынства ў Саюзе пісьменнікаў прарочылі таго ж Міколу Мятліцкага, які, аднак, да гэтага часу займеў крэсла галоўнага рэдактара і наўрад ці яго памяняў бы. Якраз замена галоўных рэдактараў літаратурна-мастацкіх часопісаў, успрынятая пісьменніцтвам як разбурэнне беларускай літаратуры, нанесла скрышальны ўдар па прапрэзідэнцкай меншасці СБП.

Рыгор БУЯН

## НАГОДА ЎСПОМНІЦЬ

### 24 траўня

**827.** Нарадзіўся асветнік Кірыла, які разам з Мяфодам стаў бацькам славянскай пісьмовасці.

**1686.** Нарадзіўся нямецкі фізік Габрыель Фарэнгейт, вынаходнік спіртовага і ртутнага тэрмометраў. Таксама ён прапанаваў тэмпературную шкалу, названую яго імем.

**1822.** Войскі пад камандаваннем аднаго з кіраўнікоў вайны за незалежнасць іспанскіх калоніяў у Амерыцы і бліжэйшага паплечніка Сімона Балівара Антоніо Хасэ дэ Сукрэ разбілі іспанскую армію. Да атрадаў Сукрэ далучыліся паўстанцы-індзейцы і метысы. У выніку Эквадор увайшоў у склад створанай Балівараm федэратыўнай рэспублікі Вялікая Калумбія.

### 25 траўня

**1892.** Нарадзіўся Іосіф Броз Ціта, кіраўнік Югаславіі ад 1943 году. Памёр Ціта ў 1980 годзе.

**1907.** Упершыню ў парламенцкіх сходах удзел узялі жанчыны. Адбылося гэта ў Фінляндыі, якая на той час уваходзіла ў склад Расійскай імперыі. У 1906 фінкам было дазволена выбіраць і выбірацца. У выніку ў фінскім парламенце з 200 дэпутатаў жанчын аказалася 10%.

**1917.** У Ялце памёр класік беларускай літаратуры паэт Максім Багдановіч. У пакоі, дзе жыў у свае астатнія дні Багдановіч, на стале знайшлі паперку з апошнім чатырохрадковым вершам: «У краіне светлай, дзе я ўміраю…»

### 26 траўня

**1762.** Памёр Аляксандр Готліб Баўмгартэн, нямецкі філосаф-ідэаліст, які першым увёў тэрмін «эстэтыка».

**1822.** Нарадзіўся Эдмон дэ Ганкур, французскі пісьменнік, які пісаў у суаўтарстве са сваім братам Жулем. Разам яны напісалі імпрэсіяністкія раманы «Сястра Філамена» і «Жэрміні Ласертэ». Цікавы і «Дзённік» братоў. Пасля смерці брата Эдмон Ганкур у адзіночку напісаў раманы «Браты Земгано» і «Актрыса Фастэн». Паводле тэстаманту Эдмона Ганкура, яго капітал быў перададзены ў фонд штогадовай літаратурнай прэміі – Ганкураўскай.

**1977.** «Чалавек-муха» Джордж Уіліг ускараскаўся па вонкавай сцяне Цэнтру сусветнага гандлю ў Нью-Ёрку, які быў разбураны летась 11 верасня. Гэта заняло ў яго 3,5 гадзіны. На даху будынка з 110 паверхаў Уіліга арыштавала паліцыя і спагнала з яго штраф за парушэнне грамадскага парадку ў памеры 1 даляр і 10 цэнтаў – па адным цэнце за кожны паверх.

### 27 траўня

**1647.** У Амерыцы ў штаце Масачусетс пакарана смерцю першая вядзьмарка – Ача Янг. Дарэчы, амерыканцы сваіх вядзьмарак не палілі, а проста вешалі.

**1877.** Нарадзілася Айседора Дункан, амерыканская танцоўшчыца, адна з тых, хто запачаткаваў і папулярызаваў школу танца мадэрн.



**1937.** У Сан-Францыска адкрыўся мост над праліваm Залатая брама – адзін з самых прыгожых мастоў у свеце. Апрача таго, гэта адно з улюбёных месцаў самазабойцаў.

**1942.** Чэхаславацкія патрыёты забілі шэфа паліцыі і СС Рэйнгарда Гейдрыха, які выконваў абавязкі пратэктара Чэхіі і Маравіі і ў першы месяц свайго кіравання аддаў загад на смерць 300 чалавек. Помсцячы за Гейдрыха, фашысты знішчылі мястэчка Лідзіцэ каля Прагі. Гэта так званая чэшская Хатынь.

### 28 траўня

**1927.** У продаж паступілі першыя савецкія канверты з надрукаванымі на іх маркамі.

**1987.** У 18.45 на Красную плошчу прызямліўся самалёт з 19-гадовым грамадзянінам ФРГ Маціясам Рустам. Пазней пілот атрымаў 4 гады папраўча-працоўнай калоніі агульнага рэжыму.

### 29 траўня

**1917.** Нарадзіўся 35-ы па ліку амерыканскі прэзідэнт Джон Кенэдзі. Дарэчы, ён быў першым і пакуль апошнім каталіком на гэтай пасадзе. Кенэдзі стаў прэзідэнтам ЗША ў 1960 годзе, выйграўшы ў рэспубліканца Рычарда Ніксана. 22 лістапада 1963 году ў Даласе Кенэдзі быў забіты.

### 30 траўня

**727.** Памёр святы Губерт, місіянер і епіскап Льежскі. Паводле падання, Губерт стаў хрысціянінам пасля таго, як перад ім паўстаў алень з зіхоткім крыжам паміж рагамі. Пазней святога Губерта прызналі апекуном паляўнічых.

**1814.** Дзень народзінаў тэарэтыка анархізму Міхаіла Бакуніна.

Кірыла ПАЗЬНЯК

## Астралагічны прагноз

**ад Веранікі Кудраўцавай на 24 – 30 траўня**

*Астрапрагноз адлюстроўвае агульны прыродны сацыяльна-псіхалагічны фон накшталт прагнозу надвор'я. Індывідуальнае прагназаванне грунтуецца на дакладных звестках: улічваецца дзень, месяц, год, месца і час нараджэння чалавека.*


**АВЕН.** Ёсць сэнс займацца новымі praктамі, сустракацца з арыгінальнымі людзьмі. Вы адкрыеце для сябе «новую галактыку», далучыцеся да перспектыўнага грамадскага руху ці заявіце пра сябе. Публічныя выступы дадаюць ачкоў у выходныя і ў панядзелак. Чацвер – перыяд вострых праблем.


**ЦЯЛЕЦ.** Найбліжэйшы час – выдатны перыяд для каштоўных праектаў у прадпрымальніцкай дзейнасці, для заваявання вышыняў у прафесіі. Будзьце больш настойлівы з чалавекам, які «прытрымлівае» грошы, і дойдзеце свайго да панядзелка. У чацвер павышаны таксама фактар няшчаснага выпадку.


**БЛІЗНЯТЫ.** Збег абставінаў дазваляе знаходзіць самыя выразныя глабальных праблемаў, удала з'ездзіць у прэстыжнае падарожжа. Можаце атрымаць неспадзяваную дапамогу ад сяброў ці аднадумцаў, мацней трымайце птушку ўдачы ў руках у выходныя і ў панядзелак.


**РАК.** Не варта з дробнай нагоды ў панядзелак «кусаць» адзін аднога. Вучыцеся кіраваць на тайным узроўні. Не выключана, што начальнік сам можа паспрабаваць уцягнуць вас у нейкую гульню. На адпачынку намячаецца палкае захапленне.


**ЛЕЎ.** Сярод іншаземцаў у некага з'яўляюцца сябры і магчымыя спонсары, у некага – патэнцыйны сужонак. Калі ігнараваць перамены, марудзіць, то ўдача хутка выслізне з рук. У аўторак у вузкім коле вы здатны прыйсці да талковага фінансавага пагаднення.


**ПАННА.** Вы здатны дасягнуць вышэйшага становішча ў экстрэмальных абставінах, прычым досыць лёгка і нязмушана. Можа скласціся някепская рабочая каманда. Бярыцеся за шабашку ў аўторак – і вас чакае поспех у разумным размеркаванні фінансаў.


**ШАЛІ.** У выходныя дні «*любви все возрасты покорны, ее порывы благотворны*». У панядзелак кожны гаворыць на сваёй мове, з-за чаго складана разабрацца адэкватна ў праблемах, а таксама стаць на пазіцыю партнёра і знайсці кампраміс. Аднак у каго наўме сапраўды каштоўныя ідэі, той праб'е сабе дарогу.


**СКАРПІЁН.** У бліжэйшыя выходныя і ў панядзелак добры фізічны стан, пачуццё гумару і дабрадушны настрой будуць спрыяць як дзелавой прадпрымальнасці, сімпатыі калегаў, так і гарманічным стасункам з роднымі. Калі ў панядзелак спатрэбіцца рыхтаваць дакументы, то гэта да лепшых зменаў у вашым жыцці.


**СТРАЛЕЦ.** Аптымальнае рашэнне льга будзе знайсці ў тых пытаннях, у якіх раней не было аднадушнасці з партнёрамі ці сужонкам. У некага пачынаецца новая хваля кахання з сужонкам у выходныя. Для халасцякоў ёсць шанец на вельмі цікавае і рамантычнае знаёмства. У чацвер – павышаны фон агрэсіі і крымінальных жарсцяў.


**КАЗЯРОГ.** Ёсць падставы спадзявацца, што ў выходныя і панядзелак вы сумееце з асалодаю перарабіць гэтульні справаў, колькі не ўдаецца за ўвесь тыдзень. Калі не спраўляецеся з сабою ў панядзелак, ёсць сэнс трапіць на прыём да псіхатэрапеўта або падрыхтаваць «камізэльку» для вернага сябра.


**ВАДАЛІЎ.** Вам шмат што ідзе ў рукі: і каханне, і забавы, і творчы натхнёны палёт. Дзеці робяцца «кветкамі жыцця». Калі ім у панядзелак паступаюць нечаканыя прапановы, асабліва звязаныя з адпачынкам, абавязкова скарыстайце з нагоды.


**РЫБЫ.** Вельмі перспектыўна займацца ўкладаннямі ў нерухомасць або ўчастак зямлі ў найбліжэйшыя тры дні. У панядзелак, як бы ні сутыкнуліся твар у твар сужонак і чалавек, які выклікае вашую сімпатыю, з мухі можа вырасці слон. Калі гэтых дзень прысвяціць вырашэнню важнай праблемы сужонка, то цягам месяца яна можа быць вырашана на вашу карысць.

**НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА**




# Кітайцы на Месяцы

***Кітайцы сабраліся ў 2010 годзе выправіць сваю першую экспедыцыю на Месяц і заснаваць там базу, як на зямным Паўночным ці на Паўднёвым полюсе.***

Пра гэта паведаміла кітайская газета *China Daily*. Хоць такая заява гучыць як фантастыка, кітайцы настроены вельмі сур'ёзна. Каб замацавацца на Месяцы, яны напачатку збіраюцца ажыццявіць трохступенную каляязямную касмічную праграму.

Навукоўцы з Паднябеснай ужо правялі шэраг паспяховых запускаў, далучыўшы да моднага цяпер касмічнага турызму малпу, сабаку, труса і слімакоў. Да 2005 году яны збіраюцца выправіць на арбіту і першага чалавека. Дзеля гэтага ўжо адабраны 12 кандыдатаў, якія цяпер праходзяць адпаведныя трэніроўкі. Паводле словаў намесніка галоўнага канструктара карабля «Шэньчжоў-3» Ван Чжуана, ужо распрацаваны адсек для вяртання, скафандр і іншыя аксесуары.

Другім этапам касмічнае праграмы стане стварэнне арбітальнай лабараторыі, потым настане чарга будаўніцтва касмічнае станцыі і стыкоўкі з МКС. Толькі пасля гэтага, як паведамляе *BBC News*, кітайцы збіраюцца пачаць асваенне Месяца дзеля распрацоўкі яго мінеральных рэсурсаў. Рабіць гэта за 384 400 км ад спажыўцоў – праджэкт, годны вар'ята-мільярдэра.

У амерыканцаў, у адрозненне ад кітайцаў, планы па асваенні космасу нашмат больш маштабныя і доўгатэрміновыя. Паколькі НАСА займаецца пілатаванымі касмічнымі палётамі з 5 траўня 1961 году і на Месяцы яго астранаўты ўжо пабывалі, агенцтва цяпер цікавіць Марс. Удзельнік праграмы астранаўт Баз Олдрын лічыць: *«калі ўжо мы збіраемся выправіць чалавека на Марс, дык трэба рабіць гэта паслядоўна, каб працягваць такія візіты і надалей»*. Таму навукоўцы ўзяліся за распрацоўку цяжкога касмічнага карабля, які мог бы браць на борт да 50 чалавек і перавозіць іх з Зямлі на Марс і назад.

Прапануецца пабудаваць два такія «касмічныя аўтобусы», якія маглі б стала курсаваць паміж калоніяй і метраполіяй. Дасягнуўшы Марса, транспарт не будзе спыняцца, а за кошт эфекту паскарэння ў гравітацыйным полі планеты будзе разварочвацца і з новымі сіламі ляцець назад. Сысці з такога аўтобусу не ўдасца нават на запатрабаванне, таму насустрач яму будзе стартаваць нешта накшталт таксі, якое павінна будзе падлятаць да карабля, прыстыкоўвацца, здзяйсняць пасадку-высадку пасажыраў і вяртацца на базу.



**Сем тысяч жыхароў гарадка Уладовуца, адкуль родам папа Ян Павел II, склалі ягоны партрэт у выглядзе «жывой мазаікі» – людзі прыйшлі на гарадскую плошчу кожны з фрагментам карціны ў руках. Гэта быў падарунак знанаму земляку на дзень народзінаў.**

**ЗАБАЎКІ**

## Microsoft: новая гульнёвая сетка

**Карпарацыя *Microsoft* абвясціла пра свае амбітныя планы па стварэнні адзінай сусветнай гульнёвай сеткі, паведамляе *BBC News*.**

Выкарыстоўваючы найноўшыя распрацоўкі ў галіне шырокапалосных сетак (тэхналогіі, здатнай забяспечыць адначасовую перадачу голасу, дадзеных і відэа), новы прадукт *Microsoft* пад назваю *Xbox Live* дазволіць гульцам адначасова кантактаваць між сабою і спаборнічаць з супернікамі незалежна ад іх месцазнаходжання і адлегласці да іх.

Падобная сетка ўпершыню пачне функцыянаваць на тэрыторыі Паўночнай Амерыкі, Еўропы і Японіі ўвосень гэтага году.

Кампанія *Microsoft* прадставіла на мінулым тыдні 200 гульняў, у якія ўжо напрыканцы гэтага году можна будзе гуляць, карыстаючыся сістэмаю *Xbox*.

# Спакушэнне генамі

**Ральф Дж. ГРЫНСПАН, старэйшы навуковы супрацоўнік Інстытуту неўралогіі Сан-Дыега**

***Генетыкі паведамляюць, што ў пантэон генаў, якія «адказваюць» за паводзіны чалавека і розныя рысы характару, увайшоў ген, адказны за навыкі сумоўя.***

Ён заняў месца побач з генамі, што вызначаюць такія рысы, як рызыканцтва, шчасце, агрэсіўнасць і сексуальная арыентацыя. Ствараецца ўражанне, што мы наблізіліся да разгадкі чалавечай натуры і што мы істоты нашмат больш простыя, чым здавалася.

Але вызначыць ролю, якую граюць гены ў паводзінах чалавека, нялёгка. Вынікі многіх даследаванняў чалавека носяць папярэдні характар і не паказваюць на канкрэтны ген.

Гіпотэза, што асобны ген прадвызначае пэўную біялагічную рысу, старая, як сама генетыка. Апісваючы гены, адказныя за колер гароху ці форму крылаў дразафілы, генетыкі на пачатку мінулага стагоддзя лічылі, што кожны ген кіруе нейкай адною рысаю. Да 20-х гадоў бальшыня генетыкаў адмовілася ад меркавання, што за кожную індывідуальную рысу адказвае канкрэтны ген.

Цяпер вакол нас бушуе мора генетычнай інфармацыі. Новыя тэхналогіі адрываюць штодзень усё больш генаў; складаюцца поўныя спісы генаў чарвякоў, мышэй і людзей. Але паводзіны гэтых відаў яшчэ больш, чым у мушкі дразафілы, вызначаюцца вялізным зборам генаў, ніводзін з якіх не дзейнічае ізалявана. Гены ўплываюць адзін на аднаго і ў сваю чаргу зазнаюць уплыў навакольнага свету. Вынік – унікальная асоба.

Прычына гэтага простая. Усе істоты, якія размнажаюцца полавым шляхам, маюць унікальную камбінацыю генаў, уласцівых свайму віду, якую яны пераймаюць у спадчыну ад бацькоў. Усе людзі, напрыклад, маюць аднолькавы набор генаў – аднолькавы генетычны кантэкст, – але не дакладна адзін і той жа варыянт кожнага гена. Гэтыя дробныя варыяцыі, у прыватнасці, і робяць нас непадобнымі адзін да аднаго.

Акрамя неаднолькавай генетыкі, усе жывыя істоты пражываюць цягам жыцця неаднолькавы шэраг падзеяў. Гэта слушна як у выпадку з генетычна тоеснымі бактэрыямі, што размнажаюцца ў аднастайным асяроддзі, так і з людзьмі, якія жывуць у Парыжы, Токіо ці Маскве. Ведама, розніца паміж жыццямі двух масківічоў будзе большаю, чым у дзвюх бактэрыяў у лабараторнай прабірцы.

Гены даюць жыццю магчымасць развівацца, але не прадвызначаюць яго. Так што пытанне не ў тым, ці мы, людзі, – слугі сваіх генаў, але – ці слушна мы захоплены ідэяй, што паводзіны чалавека можна лёгка патлумачыць і прадказаць? Магчыма, нам не варта з такім імпэтам вызваляцца ад цяжару асэнсавання, ацэнкі і выбару – словам, ад таго, што складае аснову нашае людскасці.

**© Project Syndicate, травень 2002**

Галоўны рэдактар Павел ЖУК

© НАША СВАБОДА
Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая.
Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі.

тэл. 210-02-53, факс 210-02-54
Адрас для пошты: 220123, г.Мінск, а/с 103
E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by
Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдадзена з 25 лютага 2000 г.
Заснавальнік Зміцер Жук. г. Мінск, вул. Рафіева, д.25, корп.1.

Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА.
Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная зорка»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ № 1150
Нумар падпісаны ў друк 23/05/2002 (12:00) Тыраж – 6.900